**Раіса Баравікова**

# Галенчыны “Я” альбо Планета Цікаўных Хлопчыкаў

АПОВЕСЦЬ

Мінск
Юнацтва
1990

На Рэспубліканскім конкурсе на лепшы літаратурны твор для дзяцей і юнацтва, прысвечаным 70-годдзю Вялікага Кастрычніка, кніга атрымала трэцюю прэмію.

В фантастической повести рассказывается о том, как в необъятном и загадочном Космосе обитатели планеты Любопытных Мальчиков неожиданно открывают новую планету Голубая Звезда, на которой живёт девочка Алёнка. Много вопросов возникает у любопытных мальчиков о новой планете. Отвечает на них сама Алёнка. Она рассказывает им истории и сказки о самых прекрасных человеческих качествах.

Мастак Л. ЗЯРНІЦКІ

У далёкіх прасторах бязмежнага Космасу знаходзілася планета, якая нечым нагадвала аранжава-белы футбольны мяч. І называлася яна планетай Цікаўных Хлопчыкаў. На ёй сапраўды жылі адны хлопчыкі, і былі яны самымі цікаўнымі хлопчыкамі з самых цікаўных, якія толькі могуць быць на свеце.

Хлопчыкі ведалі ўсе планеты, якія былі ў суседстве з іх планетай, і не знаходзілі там нічога цікавага для сябе. На планетах жылі людзі Халоднага Розуму і Цвёрдага Сэрца. І толькі адна планета вабіла сваёй невядомасцю. Хлопчыкі звалі яе Блакітнай Зоркай, а суседзі планеты Цікаўных Хлопчыкаў — планетай Жывой Прыгажосці.

Цікаўныя хлопчыкі сумавалі. Яны нават злаваліся, вядома, на саміх сябе, бо многае маглі ў сваім жыцці цікаўныя хлопчыкі, а планета Блакітная Зорка так і заставалася для іх загадкай.

Хлопчыкі маглі чуць і разумець сваіх сяброў на вялікай адлегласці. Яны маглі перадаваць свае думкі на любую іншую планету, і ўсё роўна Блакітная Зорка заставалася для іх невядомай планетай — яна была немагчыма далёкай.

Нарэшце ім надакучыла сумаваць і пазіраць на Блакітную Зорку з цікавасцю, на якую толькі былі здольныя цікаўныя хлопчыкі.

— Мы зробім тэлескопы, якіх яшчэ нідзе і ніколі не было,— сказалі цікаўныя хлопчыкі.

— Мы адкрыем для сябе Блакітную Зорку! — паўтаралі і паўталі яны і пачалі майстраваць тэлескопы, якіх яшчэ нідзе і ніколі не было. Цікаўныя хлопчыкі працавалі сто дзён і сто начэй. Яны змайстравалі многа тэлескопаў, але ніводзін з іх не дасягаў Блакітнай Зоркі.

— Нашы намаганні дарэмныя! — сказалі цікаўныя хлопчыкі і яшчэ больш засумавалі, а самы маленькі з цікаўных хлопчыкаў нечакана здагадаўся.

— Сябры! — сказаў ён.— Я знаю, чаму планета Блакітная Зорка застаецца недасяжнай. Мы глядзелі на яе праз свае тэлескопы толькі дзеля цікавасці. І ніводнага разу не захапіліся яе прыгажосцю. А яна ж вельмі прыгожая!

Цікаўныя хлопчыкі падбеглі да сваіх тэлескопаў і пачалі глядзець у іх, навёўшы на планету Блакітная Зорка.

— Бачу дзяўчынку на Блакітнай Зорцы! — сказаў самы маленькі з цікаўных хлопчыкаў.

— І я таксама бачу дзяўчынку! — сказаў самы старэйшы з цікаўных хлопчыкаў.

— І мы... І мы бачым яе! — закрычалі ўсе астатнія цікаўныя хлопчыкі.

— У дзяўчынкі вочы, як трава на нашым лузе! — сказаў самы маленькі з цікаўных хлопчыкаў. І тут трэба сказаць, што трава на планеце Цікаўных Хлопчыкаў была сіняя-сіняя.

— А валасы ў яе, як лісце на нашых дрэвах самай ранняй вясною! — сказаў самы старэйшы з цікаўных хлопчыкаў. І тут таксама трэба сказаць, што лісце на планеце Цікаўных Хлопчыкаў самай ранняй вясною — жоўтае-жоўтае!

— У яе вялізны бант колеру вады ў нашай рэчцы! — закрычалі астатнія хлопчыкі. І трэба сказаць, што на планеце Цікаўных Хлопчыкаў вада ў рэчках была аранжавая-аранжавая!

— Як цябе завуць?! — нечакана запытаўся самы маленькі з цікаўных хлопчыкаў, таму што ён быў самы-самы цікаўны. І ўсе астатнія цікаўныя хлопчыкі затаілі дыханне і пачулі ў адказ зусім нечаканае:

— Галенка!.. Мяне завуць — Галенка!..

І дзяўчынка Галенка на планеце Блакітная Зорка ласкава заўсміхалася.

— Раскажы нам пра сябе. Мы нічога яшчэ пра цябе не ведаем! — звярнуўся да дзяўчынкі самы маленькі з цікаўных хлопчыкаў.

— Раскажы!.. Раскажы!..— папрасілі ўсе астатнія цікаўныя хлопчыкі. І як жа яны былі здзіўлены, калі ў адказ пачулі толькі адно:

— Я… Я… Я… я… я….

Цікаўныя хлопчыкі задумаліся, што б гэта магло значыць.

А з планеты Блакітная Зорка няспынна гучала: «Я… Я… Я…» І тады загаварыў, звяртаючыся да Галенкі, самы старэйшы з цікаўных хлопчыкаў.

— Тваіх «Я» вельмі многа! — сказаў ён.— Ты расшыфруй нам кожнае з іх, калі яны нешта азначаюць.

І дзяўчынка Галенка адгукнулася на яго словы.

— Вы правільна мяне зразумелі! — сказала яна.— Мае «Я» — гэта я сама. Мой характар, мае звычкі і захапленні. І я з вялікай прыемнасцю раскажу вам пра іх. І, відаць, пачну з першага «Я», што для мяне заўсёды азначае — ДРУЖАЛЮБНАСЦЬ. Гэта яна спрыяе і дапамагае сяброўству. На жаль, у нас хлопчыкі вельмі часта сябруюць толькі з хлопчыкамі, а дзяўчынак нават і не заўважаюць. І ў мяне ёсць многа такіх прыкладаў, але пра іх чамусьці не хочацца зараз гаварыць.

Ды, каб вы правільна зразумелі маё першае «Я», дазвольце расказаць вам зусім пра іншае. Пра тое, як пачалося сяброўства паміж адным маім знаёмым хлопчыкам і дзяўчынкай, якая кожнае лета прыязджае ў наш горад. Хлопчык — мой сусед. Мы жывём у адным

доме на вуліцы Касманаўтаў. І тое, пра што буду я расказваць, адбывалася на маіх вачах.

Гэтая гісторыя паступова склалася ў апавяданне, якое я ўжо расказвала хлопчыкам і дзяўчынкам з нашага двара. А цяпер паслухайце гэтае апавяданне і вы. Хлопчыка я назаву — Валодзька, а дзяўчынку — Зося.

І...

### *Дзяўчынка Галенка пачала расказваць цікаўным хлопчыкам апавяданне «Аперацыя «Дзіцячы гадзіннік»*

Аднойчы, гуляючы на двары ў футбол, Валодзька разагнаўся і... мяч у адзін міг уляцеў у расчыненае акно восьмай кватэры.

Кандрат, хлопчык з незвычайна кірпатым носам, гадоў адзінаццаці, толькі тоненька-тоненька войкнуў і хуценька сеў на лаўку непадалёк ад клумбы, над якой, бы вялізныя белыя шары, раскашавалі духмяныя флёксы.

Сеў Кандрат, апусціў галаву, а Валодзька, усё яшчэ здзіўлены гэтай непрыемнай нечаканасцю, глядзеў на чорны праём расчыненага акна. Ну вось зараз... Зараз выгляне бабуля Ганна, а можа, дзед Васіль. Гэта яшчэ нічога!.. Валодзька добра іх ведаў.

— Я вам пакажу, падшыванцы! — скажа бабуля Ганна, пагрозіць пальцам і аддасць мяч. Вось і ўсё. Дзеда Васіля Валодзька таксама не баяўся. Той можа проста выкінуць мяч назад, можа патрэсці галавой і дадаць адно-адзінае: «Эх, Вало-одзька!» А вось Генадзь, сын дзеда Васіля і бабулі Ганны... Генадзь можа многае.

Валодзька баяўся яго. Мінула некалькі хвілін, а ў акне ніхто не з'яўляўся.

«Можа, дома нікога няма!» — мільганула думка.

Валодзька падышоў да акна зусім блізка, паглядзеў на Кандрата, крыкнуў:

— Падсадзі!

Кандрат ішоў нерашуча, без ахвоты. Моўчкі прысеў, падстаўляючы Валодзьку плечы. І Валодзька хуценька ўчапіўся за падаконнік і радасна захіхікаў: «Хі-хі!..»

Мяч ляжаў пасярэдзіне вялікага пакоя, як быццам яго там паклалі. У пакоі нікога не было і, здаецца, усё было цэлае, і тут толькі Валодзька заўважыў, што тэлевізар уключаны. На вялікім каляровым экране павольна гнала свае шумлівыя хвалі рака, крутыя берагі яе абрываліся пясчанымі грудамі. «Мяркуецца, што вось тут і была

зроблена пасадка,— пачуў Валодзька голас дыктара.— На берагах Аланкі».

«Наша Аланка! — раптоўна бліснула трывожная думка.— Але няма ў Аланкі такіх берагоў»,— адразу запярэчыў сам сабе Валодзька. А дыктар гаварыў: «Невядомы касмічны карабель не затрымліваўся на нашай планеце, але ёсць усе падставы думаць, што нехта з членаў экіпажа застаўся ў межах горада Н., ёсць версія, што, магчыма, гэта падлетак: хлопчык або дзяўчынка!»

— Ганна! — голас дыктара заглушыў густы бас дзеда Васіля.

Валодзька саскочыў уніз...

— Ты што, звар'яцеў? — закрычаў Кандрат.— Ледзь шыю мне не звярнуў!

Зусім побач упаў мяч. Бабуля Ганна зачыняла акно, і яе словы: «Чакайце, я да вашых бацькоў дабяруся!» — як праз туман даплывалі да Валодзькі. Яму ўсё яшчэ чуўся голас дыктара: «...Нехта з членаў экіпажа застаўся ў межах горада Н... Хлопчык або дзяўчынка».

Кандрат падняў мяч.

— Я дамоў пайду,— сказаў ён Валодзьку.— Калі хочаш, заўтра на школьны стадыён прыходзь!

Валодзька згодна кіўнуў галавой. У душы ён быў рады, што Кандрат пакідае яго сам-насам з такой незвычайнай навіной, пра якую ён чамусьці не схацеў расказаць Кандрату. У тым, што пад горадам Н. трэба разумець яго родны горад, Валодзька не сумняваўся. Але якое дзіва-дзіўнае! Вось каб сустрэць таго хлопчыка ці дзяўчынку! У Валодзькі аж дух заняло ад такой фантастычнай думкі.

Бралася на адвячорак. Было падобна, што з поўначы нацягваецца хмара. Валодзька зямлі пад сабой не чуў, калі ішоў да пад'езда. А як толькі ўвайшоў у кватэру, да яго радасна кінулася ўзбуджаная пяцігадовая сястрычка Каця:

— Валодзька, хадзі хутчэй да акварыума, толькі глянь, што татка прынёс!

— Зараз!..— Валодзька зняў кеды, сказаў амаль па-даросламу: — Ну, малеча, паказвай, што татка прынёс...

Каця пацягнула яго ў пакой, дзе стаяў акварыум. Між водарасцей пагойдваліся павольныя скалярыі, варушылі вусамі жамчужныя турамі, мільгацелі рухавыя пецыліі... Але Каця паказвала на дно акварыума:

— Ты толькі паглядзі, якая водарасць! Бачыш, зялёны шар! Татка гаворыць, што гэта дзіцячы гадзіннік. Вечарам, калі трэба класціся спаць, ён усплывае на паверхню, а раніцай, калі трэба ўставаць, ён зноў асядае на дно...

Валодзька разглядаў шар. Сапраўды, дзіўная расліна. У словы Каці ён мала верыў, але такой водарасці яшчэ ніколі не бачыў.

— А дзе тата? — запытаўся ў сястрычкі.

— Адпачывае. Прасіў не будзіць. А мама пайшла да Кавалёвых.— Дзяўчынка не зводзіла вачэй з прыгожай водарасці.

— Слухай, Каця, а тата не казаў, дзе ён узяў гэты шарык?

— Казаў,— хутка адказала малая.— Купіў у дзяўчынкі на птушыным базары.

— Гм-м-м, у дзяўчынкі!.. На птушыным базары,— паўтарыў Валодзька і аж падскочыў ад раптоўнай здагадкі.— А што, калі гэта тая самая дзяўчынка... З таго невядомага міжпланетнага карабля, пра які ён нядаўна пачуў з тэлевізійнага экрана. Можа, гэтая водарасць з нейкай далёкай планеты, можа, там усе водарасці, як шары. І не толькі водарасці, можа, там шарападобныя травы, дрэвы, кусты...— І чым больш глядзеў Валодзька на водарасць, тым больш дзіўнай яна яму здавалася.

— Бацькі не ўключалі тэлевізар? — запытаўся Валодзька ў Каці.

— Не. А што?

— Ды так,— Валодзька пацісну ў плячамі.— Дзе наша праграма? Прынясі сённяшнюю газету.

— А я не ведаю, якая сённяшняя,— адказала Каця.

Валодзька пачаў шукаць газету, але яе нідзе не было. Прыйшла маці, бацька прачнуўся і пачаў глядзець тэлевізар. Потым вячэралі. Усё было, як звычайна, як кожны дзень, толькі незвычайныя думкі доўга не давалі заснуць Валодзьку.

Ён злаваўся, што не знайшоў тэлевізійнай праграмы, думалася: трэба было расказаць бацькам пра пачутае. Але тады трэба было б расказаць і пра мяч, які ён загнаў, усё роўна як у вароты, у акно восьмай кватэры.

Потым раптам ускокваў, ціхенька ішоў у Кацін пакой, падыходзіў да акварыума і глядзеў на дзіўную водарасць, якую прынёс бацька. Ён успамінаў Каціны словы пра дзіцячы гадзіннік і бачыў, што шар не ўсплыў. А чаму не ўсплыў? Значыцца, асяроддзе не тое, думаў Валодзька. І цяпер страшна было паверыць, што гэтая водарасць-шар можа быць з іншай планеты, але атрымлівалася, што так... У акварыуме яна не прыжылася.

Ён зноў ішоў у свой пакой, спрабаваў заснуць, і калі ўсё-ткі заснуў, некалькі разоў паўтараў у сне: «На берагах Аланкі... водарасць-шар... птушыны базар...» Дзень, які закончыўся так таямніча, не мінаўся і ў сне.

...Прачнуўся Валодзька позна. Яркія промні ўжо высока скакалі па сцяне. Бацькоў не было дома, і Каця пайшла ў дзіцячы сад. На стале ляжала запіска: «Сняданак і абед у халадзільніку. Разагрэй». Гэта пісала маці. Валодзька раптам успомніў пра акварыум: «Цікава, як там тая водарасць?» І калі падышоў і глянуў, яшчэ раз пераканаўся: водарасць ляжала на ранейшым месцы.

«Вось табе і дзіцячы гадзіннік!» — ён успомніў размову з Кацяй і хацеў нават засмяяцца, але падзеі мінулага вечара павярнулі на сур'ёзны лад...

Трэба пазваніць бацьку, падумаў Валодзька, і спытаць пра дзяўчынку, у якой ён купіў водарасць. Дурань, чаму я не запытаўся ўчора? Гэтая ж водарасць нічым не звязана з забітым у акно мячом. Валодзька хутка набраў нумар тэлефона.

— Тата, гэта я,— сказаў у трубку.— Раскажы, калі ласка, пра дзяўчынку, у якой ты купіў водарасць.

— Дзяўчынка як дзяўчынка,— адказаў бацька.— Я спяшаюся на нараду. Ты паснедаў?

Есці Валодзьку не хацелася.

Быў трэці месяц летніх канікулаў. Пасля адпачынку ў піянерскім лагеры ўжо некалькі тыдняў Валодзька бавіў час дома. Перачытаў амаль усяго Жуля Верна і ў каторы ўжо раз перачытваў невялікі томік Конан-Дойла, але гэтым днём і чытаць не хацелася. Адна-адзіная думка не выходзіла з галавы: «Вось каб сустрэць тую дзяўчынку... з міжпланетнага карабля». І Валодзьку прыемна думалася, што гэта павінна быць абавязкова дзяўчынка, хаця, калі шчыра, дзяўчынак ён не любіў: задавакі, толькі і ведаюць банты завязваць!..

Трэба паехаць у горад, вырашыў Валодзька. Пахаджу па вуліцах. Недзе ў глыбіні душы яго тлела жаданне сустрэць гэтую фантастычную госцю. Ён падышоў да акна, паглядзеў у двор...

Знаёмая бабуля Наста сядзела на лавачцы, побач гуляла яе двухгадовая ўнучка. Непадалёку ад дома, у якім жыў Валодзька, быў дзіцячы сад. Валодзьку нібы пацягнула туды, за невысокую агароджу, ён аж прыўзняўся на дыбачкі... На лаўцы, паабапал якой разлёгся кветнік, пазнаў знаёмую блакітную сукенку ў дробную белую бубачку. «Светка! — адзначыў ён.— Вунь куды залезла і, здаецца, не адна!»

Светка была яго аднакласніца і нават жыла ў адным пад'ездзе з Валодзькам, толькі паверхам вышэй. І сапраўды, была яна не адна. Побач сядзела дзяўчынка ў ярка-зялёнай сукенцы. Валодзьку падалося, што ён бачыў яе ўпершыню, ва ўсякім разе не ведаў дзяўчынкі ў такой яркай сукенцы.

«Трэба ўзяць бацькаў бінокль,— вырашыў Валодзька,— і добра разгледзець дзяўчынак!»

Яго вельмі зацікавіла ярка-зялёная сукенка. Колер такі пранізлівы, як у той водарасці, што прынёс бацька.

Пакуль шукаў бінокль, думаў пра Светку. Ну і не любіў жа ён яе. Успомніў, як вясной маці гаварыла са Светкай на лесвічнай пляцоўцы:

— Светачка, дык ты падцягні нашага Валодзьку па матэматыцы!

І з якім ж гонарам адказвала Светка. Здаецца, ён так і бачыў яе напышлівы твар з дробным рабаціннем на круглых шчоках:

— Падцягну... Абавязкова падцягну, Валянціна Міхайлаўна!

А пасля пасмейвалася, пазіраючы на Валодзьку. І недзе ў самым канцы чвэрці падышла да яго і сказала: «Уладзімір, сёння я зайду да цябе. Будзем займацца матэматыкай».— «Не трэба!» — цвёрда адказаў ёй тады Валодзька. Колькі ж незадаволенасці было ў яе капрызлівым «фі-і-і»!

Валодзька выцягнуў з шафы бінокль, падышоў да акна, навёў бінокль на дзяўчынак. Задаволена засмяяўся, але чым больш ён углядаўся, тым хутчэй усмешка сыходзіла з твару. Дзяўчынка ў ярка-зялёнай сукенцы адкінула касу, і Валодзька ўбачыў даволі вялікую чорную плямку на шыі. Сэрца затахкала гулка-гулка. А што, калі гэта і ёсць тая самая дзяўчынка? Раней жа не было такой у двары. А можа, зусім і не дзяўчынку пакінулі невядомыя астранаўты, можа, яны паслалі на Зямлю робата? Што ж тады атрымліваецца? Дзяўчынка ў ярка-зялёнай сукенцы робат, а чорная плямка на шыі — патаемная кнопка, націснеш і... дзяўчынка перастае рухацца ці, да прыкладу, пачне перадаваць у космас нейкія сігналы.

«Трэба падысці да іх! — Валодзька не сумняваўся ў правільнасці свайго рашэння.— Але як падысці? — адразу ж узнікла пытанне.— Трэба, каб нейкая зачэпка была. Во, папрашу кніжку «Малыш і Карлсан» Астрыд Ліндгрэн. Некалі Светка хвалілася, што ў яе ёсць. А зараз паспрабую пазваніць Кандрату. З ім будзе прасцей. Пошук невядомага аб'екта, можна сказаць, пачынаецца, і назавём мы яго...— Валодзька зірнуў на акварыум, падумаў,— правільна! Аперацыя «Дзіцячы гадзіннік».— Ён радасна шчоўкнуў пальцам па халодным шкле акварыума і амаль пабег да тэлефона...

Неўзабаве хлопчыкі пераскоквалі цераз невялікую агароджу і рашуча набліжаліся да дзяўчынак, якія, зразумела, нічога падобнага не чакалі.

Валодзька быў спакойны. Кандрат жа, не ведаючы, што да чаго, тузаў яго за руку:

— Дык ты з-за кніжкі, толькі з-за кніжкі цягнеш мяне да іх?!

— Добры дзень! — сказаў Валодзька, наблізіўшыся да лавачкі, на якой сядзелі дзяўчынкі. Кандрат здзіўлена паглядзеў на яго. Валодзька, якога ён ведаў з першага класа, быў сама ветлівасць.

— Берасцень! — Светка аж вочы прыжмурыла.— Паглядзі, якія ў цябе красоўкі. Фі-і, колькі пылу! — і дадала: — А вось у Міколкі Мельніка красоўкі заўсёды чыстыя, як з магазіна.

— А ў цябе затое сукенка ў бубачку,— адказаў Валодзька, зірнуўшы на свае красоўкі.

— У шарыкі...— хіхікнуў Кандрат.

— Шар — гэта цела, якое валодае мінімальнай паверхняй пры максімальным аб'ёме,— раптам сказала дзяўчынка ў зялёнай сукенцы і пасунулася, як бы даючы месца прысесці побач.

Словы дзяўчынкі выклікалі розныя думкі ў хлопчыкаў.

«Разумная!» — падумаў Кандрат.

А Валодзька разважаў па-свойму: «Шар — гэта цела... Водарасць — таксама шар...— ён пазіраў на дзяўчынку і бачыў, што вочы ў яе дзіўныя: бліскучыя і зялёныя-зялёныя.— Дзяўчынка з міжпланетнага карабля!.. Гэта яна,— бы гаварыў нейкі ўнутраны голас Валодзьку.— А можа, нават і робат, у людзей я ніколі не бачыў такіх вачэй,— думаў Валодзька.— Мне б толькі да яе рукі дакрануцца, і я адразу б даведаўся — робат гэта ці не?» А ўголас ён сказаў:

— У мяне ёсць прапанова. Давайце ўсе разам паедзем у горад.

Кандрат засмяяўся:

— Валодзька, ты ж сказаў, што табе трэба папрасіць у Стрыгіньчык кніжку «Малыш і Карлсан»...

Светка здзіўлена паглядзела на Кандрата, але, дзіва, яго смех не бянтэжыў Валодзьку. Ён на ўсе вочы разглядаў дзяўчынку ў ярказялёным адзенні. А тая раптам устала з лавачкі і ціха сказала:

— Паедзем. Я, можна сказаць, і не бачыла горада як след.

Валодзька аж падскочыў: «Яна ўпершыню ў нашым горадзе... Значыцца, аперацыя «Дзіцячы гадзіннік» разгортваецца ў правільным накірунку...»

— Я не паеду,— Светка надзьмула губы.— Мне трэба даведку ў доктара ўзяць, каб займацца гімнастыкай.

— Я таксама не паеду,— цяпер ужо трошкі здзіўлена сказаў Кандрат і потым ужо толькі да Валодзькі: — Кінь ты, Берасцень, мы ж дамаўляліся на стадыён ісці...

— Гэта было ўчора,— адказаў Валодзька і нечакана для ўсіх узяў дзяўчынку ў зялёнай сукенцы за руку: — Хадзем! — і імгненна апякла

думка: «Жывая!.. Значыцца, не робат, значыцца, проста дзяўчынка, і рука ў яе цёплая-цёплая».

— Мяне завуць Зося,— сказала дзяўчынка і адняла руку.

— Я — Валодзя,— і адразу запытаўся: — Куды паедзем?

Дзяўчынка паціснула плячамі. Яны выйшлі з дворыка дзіцячага сада і цяпер абміналі дом, у якім жыў Валодзька, выходзілі на сцяжынку, што вяла да аўтобуснага прыпынку...

Калі селі ў аўтобус, доўга маўчалі.

Валодзька ўважліва разглядаў чорную плямку на шыі ў дзяўчынкі, пакуль, нарэшце, не прыйшоў да думкі: «Здаецца, звычайная радзімка...» І падалося яму, нават трошкі расчараваўся ад гэтага свайго адкрыцця, але запытаўся ў Зосі бадзёра:

— Можа, паедзем на птушыны базар? — а сам падумаў: «Ну, што ты адкажаш на маю прапанову? Я цябе наводжу на ўспамін...»

— Птушыны базар? — перапытала Зося, памаўчала і адмоўна пакруціла галавой.— Не, туды мы не паедзем. Сёння панядзелак, птушыны базар не працуе.— І загадкава заўсміхалася.

Зосьчыны словы пераконвалі, а вось гэтая ўсмешка прымушала думку не слухацца, таму што ледзь не ўголас Валодзька сказаў сам сабе: «Як жа... як жа... закрыты!.. Ды навошта ж табе ехаць туды, калі ты ўжо была на птушыным базары? Водарасць-шар прадала майму бацьку...»

Горад яшчэ не пакінула лета. Людзі на тратуарах здаваліся ўзбуджанымі ад яркага сонца. За аўтобусным акном прамільгнула шыльда дзіцячага кафэ «Пінгвін».

— Хочаш марожанага? — запытаўся Валодзька.

— Можна,— неяк вяла адказала Зося.

— Тады хадзем. Зараз будзе прыпынак.

Кафэ «Пінгвін» было непадалёку. І яны хутка апынуліся ля дзвярэй. Тут Зося чамусьці разгубілася.

— А можа, не пойдзем? — нерашуча сказала яна.— Мне нельга марожанага.

«Вось-вось...— падумаў Валодзька.— Баішся. Марожанае, відаць, табе ў навіну. Можа, там, на тваёй планеце, няма марожанага».

Зося нібы падслухала яго думкі.

— Урэшце, зойдзем,— сказала яна.— Усё-ткі я вельмі яго люблю, хаця пасля марожанага часта бывае ангіна.

У кафэ яны доўга не затрымаліся, і як толькі зноў апынуліся на тратуары, Валодзька прапанаваў:

— А хочаш, зараз пойдзем у звярынец? Тут амаль побач, нейкіх трыста метраў...— І падумаў: «Пагляджу на тваю рэакцыю, тыгра, на-

пэўна, спалохаешся. Такія паласацікі наўрад ці водзяцца на тваёй планеце».

Зося ахвотна пагадзілася.

— Я люблю звярынец! — сказала яна.— Там заўсёды такія сюжэты паяўляюцца! Самыя сапраўдныя мульцікі!..

— Сюжэты? — не зразумеў яе Валодзька.

— Хочаш, раскажу?

— Хачу.

Валодзьку сапраўды было цікава. Ён уявіў, што зараз пачуе пра шарападобныя травы, дрэвы, кусты...

Зося пачала расказваць, нібыта чытала па кнізе, весела, з азартам:

— Да прыкладу, возьмем слана. Звычайны слон, а ён жа — голы... У мядзведзя, у зайца, у лісіцы ёсць футра, а ў слана няма... І аднойчы лісяня, скажам, у Белавежскай пушчы, вырашыла паслаць слану ў заапарк апратку, а яе ж трэба пашыць ці звязаць. І вось закіпела работа. Зубры далі шэрсці на шапачку, на шалік. Іх звязала ваўчыха. А старая рысь наткала палатна, і вожык пашыў пінжак. Уяўляеш, пінжак слану! Потым звяры запакавалі ўсё гэта ў пасылку і адаслалі. Як жа ўзрадаваўся слон! Адразу надзеў пінжак, нацягнуў на галаву шапачку, шыю абкруціў шалікам і... сфатаграфаваўся! Уяўляеш, фотаздымак прыйшоў у Белавежу — слон у шапачцы — і надпіс: «Сардэчнае дзякуй, звяры!» Ты ўяўляеш?!

— Уяўляю,— задуменна адказаў Валодзька.

— Паспрабуй цяпер ты расказаць які-небудзь сюжэт,— прапанавала Зося.

Вочы ў Валодзі заіскрыліся. «Ну, зараз я табе раскажу, сюжэт»,— падумаў ён і адразу пачаў:

— На берагах Аланкі прызямліўся невядомы міжпланетны карабель. На Зямлі ён доўга не затрымліваўся, але затое пакінуў аднаго з членаў экіпажа. Ёсць меркаванне, што гэта можа быць падлетак: хлопчык ці дзяўчынка. Бацька прынёс дзіўную водарасць пад умоўнай назвай «Дзіцячы гадзіннік»...

— Чакай, чакай! — перапыніла Валодзьку дзяўчынка.— Ты раскажы свой сюжэт.

— Я і расказваю,— Валодзька абурыўся.

Зося засмяялася.

— Гэты сюжэт быў учора па тэлебачанні,— сказала яна.— У перадачы «Навуковая фантастыка і трошкі мары». Якраз ён і быў «трошкі мары». Эх ты, Валодзька! — у Зосьчыным голасе пачуліся ноткі дзеда Васіля.

— Звярынец вунь...— глуха сказаў хлопчык, паказваючы вачамі.

— Закрыты-ы,— расчаравана працягнула Зося.— Зноў вінаваты панядзелак. І тут выхадны.

— Мне трэба дадому,— сказаў Валодзька.

І зноў яны ехалі ў аўтобусе. Зося пазірала ў акно. У думках яна шкадавала, што праз некалькі дзён ёй трэба вяртацца дадому, у невялікі гарадок, дзе яна жыла разам з бацькамі, што хутка трэба будзе ісці ў школу і толькі ва ўспамінах застанецца вось гэтая вуліца, гэты аўтобус і дзіўны хлопчык Валодзька, які сядзіць побач. А Валодзька таксама пазіраў у акно і таксама думаў: «Яна, напэўна, прыехала да некага ў госці. А было б добра, каб жыла побач і хадзіла ў нашу школу... Мы разам вярталіся б з урокаў і час ад часу ездзілі б у кафэ «Пінгвін», дзе прадаецца смачнае марожанае з чарнічным варэннем...»

Вадзіцель аўтобуса аб'явіў прыпынак, і калі яны выйшлі, здаля на сцяжынцы, што вяла да дома, у якім жыў Валодзька, заўважылі постаць Кандрата, а потым і голас яго пачулі:

— Гэй, Валодзька, цябе маці шукала... Ну і ўсыпле яна табе!

У адказ Валодзька чамусьці вельмі задаволена засмяяўся.

* * *

Галенка і сама задаволена засмяялася. У гэтым яе апавяданні дзяўчынцы больш за ўсё падабаліся словы Кандрата: «Гэй, Валодзька, цябе маці шукала... Ну і ўсыпле яна табе!» У іх відавочна чулася непрыкрытая зайздрасць: Кандрату, напэўна, таксама хацелася бліжэй пазнаёміцца з дзяўчынкай Зосяй. Так думалася Галенцы, а ўслых яна спыталася ў цікаўных хлопчыкаў:

— Вам спадабалася маё апавяданне?

І цікаўныя хлопчыкі адказалі ёй не адразу. Таму што кожны з іх думаў, што было б вельмі добра, каб дзяўчынка Галенка раптам апынулася на іх планеце. Яны паказалі б ёй сваю сінюю-сінюю траву, і яна, напэўна, была б вельмі здзіўлена ад таго, што вада ў рэчках на планеце Цікаўных Хлопчыкаў аранжавая-аранжавая, як Галенчын бант. Але, на жаль, дзяўчынка Галенка была вельмі далёка ад іх, і ім заставалася толькі адно — хорам адказаць:

— Нам спадабалася апавяданне!.. Вельмі спадабалася!..

А самы маленькі з хлопчыкаў, які быў і самым цікаўным, сказаў, звяртаючыся да Галенкі:

— Нам не даводзілася сябраваць з дзяўчынкамі, таму што на нашай планеце жывуць адны хлопчыкі. Але калі б, да прыкладу, тваёй

планеце, якую мы завём Блакітнай Зоркай, пагражала небяспека, мы б усе ўсталі на яе абарону.

Галенцы незвычайна спадабаліся словы самага маленькага і самага цікаўнага з хлопчыкаў. Яна была вельмі расчулена, таму радасна адказала:

— Ах, я дзякую вам... Я з самага пачатку нашага знаёмства здагадвалася, што вы адважныя хлопчыкі і што ў вас высакародныя сэрцы.

Галенка зноў задумалася, але на адну толькі хвілінку, таму што вельмі хутка прапанавала цікаўным хлопчыкам:

— А хочаце, я раскажу вам адну казку, якую пачула ад сваёй бабулі, калі я была зусім яшчэ маленькай? О-о, колькі казак ведае мая бабуля! Незлічонае мноства. Шкада, што вы не можаце пазнаёміцца з ёй. Але слухайце казку! А потым вы мне раскажаце, пра што яна?! Так заўсёды пыталася ў мяне бабуля.

І цікаўныя хлопчыкі, вядома, пагадзіліся і настроіліся ўважліва слухаць Галенку, бо яны ж былі вельмі цікаўныя.

### *Галенка расказвае цікаўным хлопчыкам казку пра цудамастака і Блакітную Вежу*

Калісьці жыў на свеце мастак. Быў ён малады, прыгожы і вясёлы. Прачнуўся аднаго ранку мастак, выйшаў на ганак роднае хаты і ажно засмяяўся ад задавальнення: пад самым акном хаціны шумеў клён, ды такі прыгожы, як ніводнае дрэва ў свеце; трошкі далей цвіў вішнёвы садок, ля нізенькага плота сядзеў каток-мурлыка, і зусім блізенька ад катка маці мыла посуд...

Радасна стала мастаку: столькі цяпла было ў гэтым мілым куточку. Раптам ён бачыць — народ валам валіць, музыкі ў бубны б'юць, смех, гоман, песні...

— Што такое? — пытаецца мастак у маці.

А маці яму адказвае:

— Гэта, дзетачка, наш кароль жэніцца! Маладую жонку ў свой палац вязе!

Выбег мастак на вуліцу, пачаў пытацца ў людзей:

— Пакажыце!.. Дзе кароль?!. Дзе кароль з маладою жонкай?!

І неўзабаве пабачыў карэту, а ў ёй караля і яго маладую жонку. І такою яна прыгажуняй здалася, што пачаў мастак яе маляваць, проста на дарозе, звычайным кіёчкам...

Раззлаваўся кароль, загадаў сваім стражнікам, каб кінулі мастака ў цямніцу, што знаходзілася ў Блакітнай Вежы аднаго з кара-

леўскіх палацаў, які стаяў далёка-далёка, на адзінокай скале, з усіх бакоў абкружаны сінім морам.

Аддаў кароль свой загад, дый забыўся пра мастака. Год прайшоў. Тры гады прайшло, вось ужо і дзесяты год мінаецца, а мастак усе сядзіць у Блакітнай Вежы. Нікога і нічога не бачыць ён, акрамя каралеўскай варты ды маленечкага каменнага дворыка ўнізе.

— Гэй, варта! — крыкнуў аднойчы мастак.— Колькі год я знаходжуся ў гэтай вежы, і ніводнага разу за гэты час мая нага не ступала на зямлю. Выпусціце мяне хоць на хвілінку!

І столькі ў яго голасе было адчаю, што стражнікі выпусцілі мастака ў маленечкі каменны дворык — унізе ля Блакітнай Вежы.

«Які ён шэры і халодны, гэты дворык! — падумаў мастак.— Хоць бы адзін зялёны лісточак мільгануў на ім ці прабілася хоць бы адна кволая зялёная травінка...»

Але не было ні зялёнай травінкі на дворыку, ні зялёнага лісточка! Цяжка ўздыхнуў мастак, гледзячы на халодны камень, і ўявілася яму далёкае, што назаўсёды засталося ў памяці.

Ён уявіў, як пад самым акном хаціны шумеў клён, ды такі прыгожы, як ніводнае дрэва ў свеце, трошкі далей цвіў вішнёвы садок, ля нізенькага плота сядзеў каток-мурлыка, і зусім блізенька ад катка маці мыла посуд... І дзіва! Гэты малюнак, які мастак уявіў да дробязі, пачаў ажываць... Мастак прасцёр свае вочы — малюнак не знікаў, ён рабіўся ўсё больш і больш выразным, ды такім, што можна было палічыць кветкі на самай блізкай вішнёвай галінцы...

— Гэта мiраж!.. Міраж!..— закрычаў мастак.

Ён упаў на халодны камень і горка-горка заплакаў, а побач... пад самым акном хаціны шумеў клён, ды такі прыгожы, як ніводнае дрэва ў свеце, і трошкі далей цвіў вішнёвы садок, ля нізенькага плота сядзеў каток-мурлыка, і зусім блізенька ад катка маці мыла посуд...

Стражнікі з жахам прыцiскаліся да сцяны Блакітнай Вежы.

— Гэты мастак — чарадзей! Ён — чарадзей! — перапалохана крычалі яны.— Ён намаляваў малюнак у паветры!..

Варта схапіла мастака і зноў павяла ў Блакітную Вежу. А вечарам, як толькі сонца схавалася за сіняе мора, стражнікі вырашылі паслаць ганца да караля, каб расказаць, якое дзіва-дзіўнае ім давялося бачыць...

Тры дні і тры ночы плыў ганец па сінім моры. Два дні і дзве ночы ішоў ганец па сушы, нарэшце, убачыў ён каралеўскі палац, а ля палаца натоўп вялікі стаіць, і вельмі хвалююцца людзі — крычаць, рукамі размахваюць...

Прабраўся ганец праз натоўп да каралеўскага палаца, чуе, варта каралеўская людзей у войска запісвае... Тут і дазнаўся ганец, што суседні кароль на іх каралеўства вайною пайшоў і неўзабаве быць бітве вялікай.

Падышоў ганец да варты.

— Вядзіце мяне,— кажа,— да караля. Я — ганец з таго астраўка ў моры, дзе знаходзіцца Блакітная Вежа.

І як толькі апынуўся ганец у пакоі, дзе сядзеў на сваім троне кароль, дык адразу і расказаў яму ўсё, што ведаў — і пра мастака, які дагэтуль знаходзіўся ў Блакітнай Вежы, і пра яго малюнак у паветры.

Спачатку кароль раззлаваўся, закрычаў з усяе сілы:

— Хто дазволіў выпускаць мастака ў дворык?! На гэта не было майго каралеўскага дазволу!..

А потым як засмяяўся, ажно з трона каралеўскага саскочыў! Падбег да ганца, абняў яго, закрычаў радасна:

— Малайчына!.. З добраю весткай да мяне прыйшоў!

І ў тое ж імгненне склікаў кароль да сябе ўсіх сваіх міністраў і расказаў ім пра мастака і яго паветраны малюнак і яшчэ такія словы сказаў кароль:

— Калі змог мастак намаляваць у паветры клён, і вішнёвы садок, і катка-мурлыку, і нават маці сваю... значыцца, ён зможа намаляваць у паветры і цэлае войска. Тады ніякі суседні кароль нам не страшны... Як убачаць ворагі, якая моца ідзе на іх, якая сіла неймаверная, дык адразу наўцёкі кінуцца з поля бітвы! — і закрычаў кароль: — Загадваю! Каб праз дзесяць дзён і дзесяць начэй мастак быў дастаўлены ў каралеўскі палац!

Так і зрабілі. На адзінаццаты дзень стаяў мастак перад каралём і слухаў яго загад:

— Заўтра на Зялёным полі пачнецца бітва... Маё войска сустрэнецца з войскам суседняга караля!.. Таму загадваю табе, нявольніку Блакітнай Вежы, намаляваць перад маім войскам яшчэ адно войска, ды такое вялікае, каб вораг, пабачыўшы яго, адразу кінуўся наўцёкі!..

— Але ж я не змагу гэтага зрабіць! — сказаў мастак каралю, ды кароль нават і не слухаў яго.

Ён загадаў стражнікам на тры замкі закрыць мастака, а назаўтра на самым досвітку вывесці яго на Зялёнае поле і паставіць перад каралеўскім войскам, каб ён загадзя намаляваў у паветры яшчэ адно войска. І ледзь толькі развіднела, як стражнікі адамкнулі ўсе тры замкі і павялі мастака на Зялёнае поле і загадалі хутчэй маляваць у паветры войска.

Паглядзеў мастак перад сабою — бачыць, на ўзгорку варожае войска стаіць, чуе, трубы звіняць, а воі варожага войска ў бой просяцца. Азірнуўся мастак назад — бачыць, каралеўскае войска стаіць. І, можа, у гэтым войску яго браты і суседзі стаяць. Зашчымела сэрца ў мастака, глядзіць ён на каралеўскіх вояў, і што ні твар, то ўсё нібыта знаёмы вельмі. А калі паглядзеў па баках, дык, увогуле, стала горка мастаку, аж зайшлося сэрца: трава наўкола шуміць, сонца толькі-толькі ўзнімаецца, жыта непадалёку, здаецца, на вачах падрастае і быццам нават перапёлка крычыць у ім… І павеяла на мастака такім блізкім, такім родным, што ўміг уявілася яму тое даўняе, далёкае, калі пад самым акном хаціны шумеў клён, ды такі прыгожы, як ніводнае дрэва ў свеце; трошкі далей цвіў вішнёвы садок, ля нізенькага плота сядзеў каток-мурлыка, і зусім блізенька ад катка маці мыла посуд…

І дзіва!.. Побач затрапятала ў паветры вішнёвая галінка. Мастаку нават здалося, што пялёсткі ціхенька ападаюць на зямлю, а маці адклала свой посуд і паглядзела ў вочы яму і туды, дзе стаялі воі караля і сярод іх, можа, былі яго браты ці суседзі. І кожны з вояў адчуў на сабе гэты позірк, і тады кожны яшчэ мацней узяўся за зброю…

Тут загрымелі трубы — пачалася вялікая бітва. І сам мастак кінуўся ў самую гушчу яе, і ўвесь час, пакуль ён біўся з ворагам, яму бачылася, як пад самым акном хаціны шумеў клён, ды такі прыгожы, як ніводнае дрэва ў свеце; трошкі далей цвіў вішнёвы садок, ля нізенькага плота сядзеў каток-мурлыка, і зусім блізенька ад катка маці мыла посуд.

У той бітве войска караля перамагло! Варожыя салдаты беглі хто куды наўцёкі, і кароль так узрадаваўся, што тут жа на Зялёным полі аддаў загад сваім стражнікам адпусціць мастака на волю: маўляў, хай ідзе ён, куды душа яго жадае!..

І пайшоў мастак за Зялёнае поле, пайшоў дарогамі і лугамі туды, дзе яго чакала хаціна, пад самым акном якой шумеў клён, ды такі прыгожы, як ніводнае дрэва ў свеце…

* * *

Галенчын расказ вельмі ўсхваляваў цікаўных хлопчыкаў. А самы маленькі сказаў:

— А можна я раскажу, пра што гэтая казка?

І Галенка пагадзілася, каб расказаў ён, і словы самага маленькага з цікаўных хлопчыкаў былі для яе не навіной, таму што самы маленькі з хлопчыкаў гаварыў пра чалавечае пачуццё, якое называецца любоўю да ўсяго, што нам заўсёды дорага і блізка. Ён

нават успомніў, з якім замілаваннем некалі маляваў свой вішнёвы садок і як пакутаваў ад таго, што доўга не мог падабраць адпаведны колер для лісця вішнёвых Дрэў.

І якраз тут патрэбна сказаць, што на планеце Цікаўных Хлопчыкаў вішнёвае лісце мае той колер, які носіць хвіліна, якая аддзяляе вечар ад ночы. Менавіта гэты колер і не даваўся самаму маленькаму з цікаўных хлопчыкаў, на што Галенка здзіўлена сказала:

— Вой, як гэта дзіўна!.. Я нават уявіць не магу, якога колеру хвіліна, якая аддзяляе вечар ад ночы! — і гэтак жа здзіўлена запыталася ў цікаўных хлопчыкаў: — А якога колеру тая хвіліна, якая аддзяляе дзень ад вечара?!

І цікаўныя хлопчыкі хорам адказалі Галенцы:

— Гэтая хвіліна праменнага колеру!

На што Галенка падумала сама сабе: «Праменнага колеру, гэта значыць, залатая...»

І якраз у гэты момант загаварыў самы старэйшы з цікаўных хлопчыкаў. Вось што ён сказаў:

— Калі я застаюся адзін у кватэры, мне таксама хочацца маляваць. І я малюю. У мяне ёсць і каляровыя алоўкі, і фарбы.— Тут старэйшы цікаўны хлопчык уздыхнуў і дадаў: — Але малюнкі ў мяне атрымліваюцца нецікавыя. Я гэта разумею сам. Таму ніколі нікому іх і не паказваю.

— А ты пакажы! — сказала Галенка.

— Навошта? — І ў голасе старэйшага цікаўнанага хлопчыка пачулася роспач.— Калі малюнкі не радуюць мяне самога,— сказаў ён,— хіба яны могуць парадаваць некага іншага?!

— Ты не адчайвайся! — супакоіла яго Галенка.— Маляваць могуць не ўсе, і нічога страшнага ў гэтым няма.

Яна падумала і дадала, звяртаючыся да ўсіх цікаўных хлопчыкаў:

— А хочаце, я раскажу вам апавяданне, якое называецца «Першы канцэрт, або Гісторыя пра жалейку, хлопчыка Кастуся і скрыпку доктара Арэшкі»? Апавяданне я пачула ад адной дзяўчынкі, з якой пасябравала мінулым летам у піянерскім лагеры. Яно мне запомнілася.

У гэтым апавяданні ёсць хлопчык Лёнік, ёсць дзяўчынка Марыся, і я не ўпэўнена, што яна магла добра маляваць, але затое Марыся іграла на скрыпцы...

І, не чакаючы згоды цікаўных хлопчыкаў, Галенка пачала ім расказваць апавяданне

### *Першы канцэрт, або Гісторыя пра жалейку, хлопчыка Кастуся і скрыпку доктара Арэшкі*

Лёнік Быхавец хуценька склаў сшыткі ў папку. Звязаў яе, сунуў у партфель. Сёння ён не застаўся ў групе падоўжанага дня і ўсё хатняе заданне рабіў дома, самастойна. «Фі-і, работа!.. На паўгадзіны, а ў школе сядзеў бы не адну...»— шчасліва думаў ён, адбіраючы патрэбныя на заўтра падручнікі і час ад часу пазіраючы ў акно..

На гэтыя позіркі была свая прычына: Лёнік чакаў... З хвіліны на хвіліну павінна была з'явіцца машына — ён вельмі добра ўяўляў гэты вялікі грузавік «Трансагенцтва», і яго больш за ўсё цікавіла, хто ж будзе сядзець у кабіне. Ён ведаў, што калі сям'я пераязджае на новую кватэру, дык месца ў кабіне побач з шафёрам, звычайна, займаюць дзеці. І Лёнік уяўляў хлопчыка, якраз свайго аднагодка, дакладней, яму хацелася, каб у кабіне сядзеў хлопчык. Вось ужо трэці год ён жыве ў дзевятым пад'ездзе агромністага дома, і на ўвесь пад'езд ён — адзіны хлопчык! Астатнія ўсе дзяўчынкі — амаль у кожнай кватэры, а ў сям'і прафесара Петручэні, якая жыве над імі, іх ажно тры!

«Плакаць трэба ад такога суседства!» — заключыў Лёнік і каторы ўжо раз з надзеяй паглядзеў у акно...

«Вой, бабуля! — ледзь не ўголас крыкнуў ён.— Нешта ж хутка з магазіна вяртаецца,— і, падумаўшы, вырашыў: — Відаць, і ёй карціць хутчэй пабачыць новых суседзяў, таму і спяшаецца, каб не прапусціць машыну...» А бабуля ўжо адчыняла дзверы, і Лёнік выбег у прыхожы пакой, дапамог бабулі зняць плашч, узяў сумку з прадуктамі, панёс на кухню...

— О-о, яблыкі-і!.. Ну, бабулечка, ты малайчына!

— Еш... еш...— чуўся задаволены голас бабулі з другога пакоя.

Лёнік вымаў яблыкі з сумкі, потым выстаўляў на стол бутэлькі з малаком. Ён ужо і забыўся пра самае цікавае на той дзень, але голас бабулі нагадаў яму:

— Глядзі... Новыя нашы суседзі прыехалі!

— Дзе? — закрычаў Лёнік і кінуўся да акна, ля якога стаяла бабуля. Першае, што ён убачыў, гэта вялізны пунсовы бант і футарал, у якім звычайна музыканты носяць скрыпкі. Але вось дзверы кабіны расчыніліся шырэй, і на зямлю скочыла дзяўчынка ў пушыстай вязанай камізэльцы і штоніках, амаль гэткіх жа пунсовых, як і бант.

— Вельмі сімпатычная дзяўчынка,— сказала бабуля і з прыемнасцю дадала: — Здаецца, акуратненькая... Вунь як асцярожна паставіла на лавачку футарал. Глядзі, Лёнік, глядзі!.. З машыны піяніна

сцягваюць... О-о, дык нашы суседзі, здаецца, музыканты!.. Весела жыць будзем, Лёнік, а-а-а?! — бабуля любіла пажартаваць.

Лёнік адышоў ад акна, тым самым падкрэсліваючы, што яму ўсё гэта ўжо нецікава. Ён нават пацягнуўся і пазяхнуў. Потым падышоў да кніжнай паліцы, доўга выбіраў кніжку і, калі выбраў, папрасіў бабулю:

— Я пайду пачытаю... Можа, засну, дык у гадзін шэсць стукнеш у дзверы. Мне яшчэ трэба ў школу зайсці!

— Паспі... Паспі, унучак! — і тут жа бабуля ўскрыкнула здзіўлена: — Вой, яшчэ адна скрыпка і яшчэ... Ну-у-у, гэта ўжо робіцца цікавым!

Лёнік моцна бразнуў дзвярыма. Яго нават абурыла гэтая залішняя бабуліна ўсхваляванасць.

А вечарам ішоў дождж: дробны; густы, але вясёлы і цёплы. Лёнік не пайшоў у школу, куды, можа, і не трэба было яму ісці, а стаяў ля пад'езда, нацягнуўшы лёгкую куртачку на галаву, і быў адзіным, хто ў гэты час бавіўся ў двары. Ён то падстаўляў рукі пад дождж, то паднімаў невялічкія каменьчыкі і шпурляў іх пад невысокі плот, за якім пачыналася футбольнае поле, то проста глядзеў на маладзенькую траву і, дарэчы, быў вельмі рады, што яна зялёная-зялёная... З усіх колераў, якія толькі ёсць на свеце, Лёнік у тую хвіліну не любіў адзін: пунсовы! Рыхтык, як бант у той дзяўчынкі. І разам з тым не мог не прызнацца сабе, што амаль з цікавасцю пазірае на раскрытыя вокны кватэры, куды зусім нядаўна ўсяліліся новыя суседзі. Адтуль чуўся мяккі жаночы голас:

— Марыся, піяніна паставім у тваім пакоі.

— Мамачка, дзякуй...

Лёнік чуў, як дзяўчынка ад радасці пляскала ў ладкі, і з яшчэ большай сілай нацягваў куртку на галаву, і было незразумела, ці то ратаваўся ён ад дажджу, ці то ад галасоў і гукаў, якія чуліся і чуліся з раскрытых акон кватэры, дзе ўладкавалася гэтая, як яму здалося, дзіўная сям'я.

Раніцай ён не спяшаўся ў школу. Ішоў, як ніколі, павольна, быццам абдумваў нейкае важнае рашэнне. «Трэба зайсці ў клас разам са званком,— думаў Лёнік.— Каб ніхто не распытваў пра новых суседзяў...» — і яму рабілася трошачкі сумна. Ён спадзяваўся, што ў суседстве будзе жыць хлопчык, і пра гэтае спадзяванне расказаў у класе. З гэтымі думкамі ён і заспяшаўся, яшчэ здалёку пачуўшы школьны званок: спазняцца яму таксама не хацелася.

«І ўсё-такі мог спазніцца!» — падумаў Лёнік, убачыўшы настаўніцу. Яна выкладала ў іх геаграфію, а цяпер стаяла ля акна, раз-

маўляючы з высокім мужчынам і дзяўчынкай. Гэтая дзяўчынка прыўзнімалася на дыбачкі, каб як мага далей зазірнуць у раскрытыя класныя дзверы, куды Лёнік хацеў незаўважна праскочыць.

— Глядзі, Марыся... Наш сусед,— нечакана для яго адазваўся мужчына. І ў тое ж самае імгненне Лёніку аж млосна стала ад такой, як яму здалося, дзёрзкасці. Дзяўчынка падышла да яго і неяк па-даросламу прывіталася:

— Добры дзень!.. Я ўчора бачыла цябе пад вокнамі! Навошта было мокнуць пад дажджом?

Лёнік не чуў апошніх слоў дзяўчынкі. Ён, можна сказаць, уляцеў у клас і... з таго самага імгнення стараўся нідзе і ніколі не заўважаць яе. Дзяўчынка для Лёніка не існавала.

Ляцелі дні...

Мінуўся красавік, і неяк незаўважна ў школьных клопатах праляцеў май... Апошні дзень навучальнага года быў сумным і радасным адначасова. Лёнік любіў свой клас, ён увогуле быў з тых вучняў, якія заўсёды задаволены сваім школьным жыццём, і вось яно на некаторы час перапынілася! Але ж наперадзе лета... сонца... вада... І Лёнік, трошкі пасумаваўшы, можна сказаць, рынуўся ў зялёны, духмяны, сонечны чэрвень. Ён хадзіў на возера, многа купаўся, глядзеў усе прыгодніцкія фільмы, якія толькі ішлі ў кінатэатрах, а вечарамі чытаў або гуляў у футбол. Час ад часу ў пад'ездзе ён сустракаў Марысю, але гэтых сустрэч быццам і не было! Ён па-ранейшаму стараўся не заўважаць яе.

І вось прыйшла раніца, калі Лёнік, як звычайна, выбег з пад'езда і ўжо накіраваўся на сцяжынку, якая вяла да кінатэатра, ды раптам азірнуўся, спыніўся і прыслухаўся...

Што гэта?! Ніколі раней ён нічога падобнага не чуў.

З кватэры, дзе жыла Марыся, праз шырока расчыненыя вокны лілася музыка... Нехта дробна-дробна прабягаў пальцамі па клавішах, і, калі гукі, аддаляючыся, заміралі, быццам прачыналася скрыпка. Яе ціхія-ціхія гукі нечакана ўзляталі, разліваючыся ў самай недасяжнай вышыні. І недзе там, у гэтай вышыні, гукі сустракаліся з тымі, якія нарадзіліся раней, і ўжо разам падалі на зямлю, на дрэвы, на разгубленага Лёніка. Па пальцах пабеглі дрыжыкі... Нейкая сіла заварушылася ў хлопчыку, яму схацелася туды, на другі паверх, у тую кватэру, адкуль гучала гэтая дзіўная музыка. Яго позірк затрымаўся на дрэве, якое расло паблізу. Ён штодня бачыў гэты клён і толькі зараз заўважыў, што яго высокая крона закрывае акно таго пакоя, які яго цікавіў зараз больш за ўсё на свеце. Лёнік падбег да клёна, абхапіў рукамі магутны ствол і... яму спатрэбілася толькі хвіліна, каб апы-

нуцца на тоўстым суку, адкуль ён бачыў увесь пакой. Марыся іграла на скрыпцы. Яна стаяла ля піяніна, за якім сядзеў яе бацька. Можна было падумаць, што Лёнік знаходзіцца ў пакоі, настолькі былі выразныя і чыстыя гукі. Яны зноў то ўзнімаліся высока-высока, то ападалі, і Лёніку здавалася, што нават лісце клёна шапаціць, нібыта паўтараючы гэтыя гукі. З ім і самім рабілася нешта неверагоднае. Яму хацелася то плакаць, то смяяцца.

Але вось гукі абарваліся, бы затрымаліся ў вышыні. Лёнік не дыхаў... Вакол было ціха, а ў ім яшчэ жылі гукі, яшчэ трапяталі, ён яшчэ чуў іх.

— Ну і сусед у нас, Марыся!.. Ты толькі зірні! — голас прымусіў Лёніка ўздрыгануцца.

— Вой, ён жа можа ўпасці! — закрычала Марыся.

Лёнік кінуўся ўніз, амаль пераскокваючы з адной галіны на другую...

— Чаго ты так спужаўся? — запытаўся ў Лёніка Марысін бацька.

Ён не адказаў на пытане. Не хаваючы слёз, якія яшчэ раней выбліснулі на вачах, Лёнік проста сказаў:

— Я слухаў музыку.

— Табе спадабалася?! Тата, яму спадабалася! — узрадавалася Марыся.

— Хадзі да нас,— паклікаў Лёніка яе бацька, і хлопчык доўга не думаў. Ён амаль уляцеў у пад'езд і пабег па лесвіцы вышэй і вышэй... Туды, дзе ў раскрытых дзвярах яго ўжо чакала Марыся.

У крэсле, куды прапанаваў сесці Марысін бацька, Лёніку было вельмі свабодна і ад гэтага няўтульна.

— Як цябе завуць?

— Лёня...— адказаў хлопчык.

— Мяне заві Андрэем Пятровічам і перасядзь на канапу... Марыся зараз прынясе малочны кактэйль... Сёння трошкі можна паласавацца... А пакуль... Чакай...— сказаў Марысін бацька і выйшаў у другі пакой.

Вярнуўся ён вельмі хутка.

— Табе ж няўтульна ў крэсле, перасядзь...— і, не чакаючы, пакуль Лёнік перасядзе на канапу, пачаў гаварыць далей, паказваючы на скрыпку, якую ён прынёс з сабой: — Бачыш? Скрыпка як скрыпка!.. А колькі ёй гадоў, ведаеш?

— Не, не ведаю,— сказаў Лёнік, перасаджваючыся на канапу.

Андрэй Пятровіч прысеў побач. Толькі цяпер Лёнік заўважыў зморшчынкі пад вачыма і адзначыў для сябе, што бацька ў Марысі ўжо немалады.

— Значыцца, не ведаеш?.. Правільна, малады чалавек! Ты не ведаеш, і ніхто не ведае! Вядома адно: гадоў ёй вельмі і вельмі многа! А хочаш, я раскажу табе гісторыю пра гэтую скрыпку? — спытаў Марысін бацька.— І не толькі пра яе...— дадаў задумліва.

— Хачу! — пагадзіўся Лёнік.

Андрэй Пятровіч устаў а канапы. Прайшоўся з кутка ў куток, і па твары можна было здагадацца, што ён любіў расказваць гэтую гісторыю...

— Было гэта ў грамадзянскую вайну,— пачаў расказваць Марысін бацька.— Баі то набліжаліся, то аддаляліся ад невялічкага хутара на ўскрайку лесу... Гаспадар быў на фронце, і ніхто не ведаў, што з ім і дзе ён. У хаце заставаліся толькі гаспадыня ды яе сын — падлетак Петрусём І вось неяк цёплай, але дажджлівай вясновай ноччу пачуўся стук у акно...

Жанчына спалохана прынікла да шыбіны. Прачнуўся і Петрусёк.

— Хто там, мама? — устрывожана запытаўся хлопчык.

— Не ведаю, сынок!

А стук паўтарыўся...

— Можа, бацька вярнуўся! Ты ляжы,— сказала жанчына,— а я выйду ў сенцы, запытаюся, хто там.

І яна выйшла.

Петрусёк чуў, як пыталася маці і як на яе голас адазваліся.

Потым у сенцах затупалі...

— У нас паранены,— пачуў Петрусёк незнаёмы мужчынскі голас.— Узялі б яго з сабою, ды баімся, што не данясём да сваіх.

І ў хату ўнеслі параненага.

— Агню не паліце,— папрасіў той жа голас.— Толькі скажыце, куды пакласці.

— Ды вось сюды, на лаўку,— хутка адазвалася маці.— Я толькі коўдру пасцялю...

Так на адзінокім лясным хутары з'явіўся паранены — доктар Арэшка, як назвалі яго чырвонаармейцы.

Рана ў яго была цяжкая. Маці некалькі дзён не адыходзіла яд яго, і былі такія хвіліны, калі здавалася, што і не выжыве хлопец. Але вось на трэцюю раніцу пасля той ночы, якраз калі маці паліла ў печы, і пачуўся голас чырвонаармейца:

— Што гэта за дзіўныя гукі, гаспадынька?

— Нарэшце...— радасна ўздыхнула жанчына.— Ачуняў... Прыйшоў-такі ў сябе... А гукі? Ды гэта Пятрусь, сынок мой, на вуліцы з жалейкай бавіцца. Ну, проста бяда, з рук не выпускае...

— Гэта не бяда,— ледзь прыкметна пасміхнуўся чырвонаармеец.— Гукніце яго. Хай пасядзіць трошкі са мной.

І два тыдні прайшло ў Петруська ў размовах з чырвонаармейцам. Ён любіў слухаць доктара Арэшку, а яшчэ больш любіў іграць яму на жалейцы, калі той прасіў яго.

А потым было развітанне...

Прыйшла раніца, калі доктар Арэшка сказаў:

— Мне трэба ісці...

— Ды куды ж вы? — спрабавала адгаварыць маці.— Вам яшчэ ляжаць трэба...

— Не. Дзякуй за дабрыню... За хлеб і за соль... Пайду я.

І тады маці выйшла ў сенцы і вярнулася з мяшэчкам.

— Тут — рэчы вашы,— сказала яна доктару Арэшку.— Я і забылася пра гэты мяшэчак, а яшчэ ж тады, як прыняслі вас, чырвонаармейцы і пакінулі яго...

Доктар Арэшка ўзяў мяшэчак, а Петрусёк сказаў:

— Дзядзечка Арэшка, я правяду вас да лесу, і жалейку маю вазьміце...

— Эх, Пятрусь,— і доктар Арэшка пагладзіў хлопчыка па віхрастых валасах.— Хочаш падарыць мне жалейку на памяць... Добрая ў цябе душа. І за жалейку дзякуй... Але не вазьму яе ў цябе. Больш таго, аддам табе адну рэч... Яна для мяне вельмі дарагая: ад бацькі засталася... І вось два гады важу яе з сабой — дзе я, там і яна! І на якіх толькі дарогах мы не былі з ёю!..

— Доктар Арэшка пачаў развязваць свой мяшэчак і дастаў з яго скрыпку... Самую сапраўдную, вось гэтую...— сказаў Марысін бацька.

Лёнік паглядзеў на скрыпку...

— Каб табе было ўсё зразумелым да канца,— працягваў Андрэй Пятровіч,— скажу толькі адно: хлопчык Петрусёк вырас і стаў музыкантам... Вось ён, паглядзі на гэты фотаздымак,— ён узяў фотакартку, якая стаяла на стале ў рамцы, і дадаў: — Гэта — Марысін дзед, а мой — бацька.

Лёнік разглядаў фотакартку...

Андрэй Пятровіч апусціў галаву, можа, ён спрабаваў уявіць тое, пра што расказаў Лёніку, але раптам заўсміхаўся, паставіў фотакартку на ранейшае месца і сказаў:

— А хочаш паспрабаваць паіграць на гэтай скрыпцы?

Лёнік спалохаўся, пачырванеў, збянтэжыўся:

— Я?! Вы прапануеце мне?! Я ніколі раней не іграў...

— А мы зараз паспрабуем... Устань і падыдзі бліжэй.— Не адступаўся ад свайго Марысін бацька.

Лёнік устаў з канапы, падышоў да Андрэя Пятровіча і ўзяў у рукі скрыпку...

З таго дня прайшло каля чатырох месяцаў.

Было кастрычніцкае ранне. Лёнік чакаў ля свайго дзесяціпавярховага дома Марысю, каб разам пайсці ў школу. Яна не затрымлівалася, выбегла з пад'езда, лёгка памахала Лёніку рукой.

— Быхавец!.. Лёня!.. У мяне маленькі сюрпрыз! — і ўжо апынуўшыся ля яго, ціха дадала:— Я ўчора дамовілася, што мы з табой будзем іграць удваіх на школьным вечары.

— Ты?.. Са мной?! — здзіўлена перапытаў Лёнік.

— А чаму б і не! — Марыся весела памахала партфелем.— Гэта будзе твой першы канцэрт,— яна нечакана спынілася, уважліва паглядзела на Лёніка, потым тузанула яго за рукаў.— Чуеш, Быхавец, твой першы канцэрт... І спадзяюся — не апошні!

* * *

— Я згодны з Марысяй,— адразу пасля Галенчыных слоў сказаў самы старэйшы з цікаўных хлопчыкаў.— Напэўна, гэты першы канцэрт будзе для Лёніка не апошнім! — а пра сябе ён падумаў: «Галенка так натхнёна расказвала, быццам музыка для яе самае неабходнае ў жыцці. Відаць, яна вельмі захапляецца ёю... І гэтае ЗАХАПЛЕННЕ ёсць не што іншае, як яшчэ адно Галенчына «Я»!»

Раптам яму вельмі схацелася заплюшчыць вочы. І калі ён гэта зрабіў, дык амаль уціснуўся ў свой тэлескоп і яму на імгненне здалося, што ён бачыць сцэну... А на сцэне сябе і Галенку. Яны іграюць на скрыпках, і зала, перапоўненая цікаўнымі хлопчыкамі, шчодра апладзіруе ім!

— Ах, як гэта добра стаяць на сцэне і чуць, як вакол цябе кружацца і кружацца дзівосныя непаўторныя гукі! — сказаў услых самы старэйшы з цікаўных хлопчыкаў.

А ўсе астатнія цікаўныя хлопчыкі сказалі зусім іншае:

— Ах, як бы нам хацелася хоць на адну хвілінку трапіць на планету Блакітная Зорка!

І самы старэйшы з цікаўных хлопчыкаў расплюшчыў вочы і адразу пабачыў у сваім тэлескопе дзяўчынку Галенку. У гэтую хвіліну яна нахілілася, каб адарваць нейкую незнаёмую расліну... І самы старэйшы з цікаўных хлопчыкаў з цікавасцю запытаўся:

— Што гэта ў цябе ў руках?

— Гэта — дзьмухавец! — бесклапотна адказала Галенка.— Хочаш, я зараз дзьмухну і ён разляціцца ва ўсе бакі лёгкімі пушынкамі? Застанецца адна сцяблінка!

— Не-не!.. Не трэба!..— закрычаў самы старэйшы з цікаўных хлопчыкаў.— Гэтая расліна такая прыгожая! — яму хацелася сказаць, што Галенка таксама вельмі прыгожая, але замест гэтага ён толькі апусціў вочы.

А тыя словы, якія яму хацелася сказаць, сказаў іншы цікаўны хлопчык:

— Расліна ў тваіх руках, сапраўды, надзіва прыгожая! Але не настолькі, каб мы маглі не заўважаць, якая прыгожая ты сама.

Галенка не хавала таго, што ёй прыемна чуць гэтыя словы. Яна звонка і шчасліва засмяялася, а потым сказала:

— Я ведаю адну казку, якая толькі аздобіць нашу размову. Яе мне расказвала мама.

### *Галенка расказвае цікаўным хлопчыкам казку, якая называецца «Тайна прыгажосці»*

Было гэта якраз у тую пару, калі з дрэў ападае лісце і ўсё часцей і часцей ідуць густыя халодныя дажджы. Некаторыя людзі завуць гэтую пару часам Нудных тыдняў. У гэты час і нарадзіліся ў аднаго чалавека дзве дачкі. Адна была такая прыгожая, што чалавек, як толькі зірнуў на яе твар, адразу сказаў жонцы:

— Ведаеш, дарагая, такога твару я ніколі і нідзе не бачыў! Ён такі прыгожы, што, гледзячы на яго, немагчыма не адчуваць радаснага хвалявання. Гэта проста не дзяўчынка, а нейкі Прамень Радасці.

Так яе і назвалі.

Другая дачка нічым не адрознівалася ад іншых дзяўчынак, пра якіх нярэдка гавораць: «Дзіця як дзіця!» Яна была кірпаносенькая, з кругленькім тварам, праўда, бровы на гэтым твары былі вельмі выразныя, яны нагадвалі два тоненькія-тоненькія лісцікі! Бацька звярнуў на гэта ўвагу, і дзяўчынку назвалі — Двулісцік!

Прамень Радасці і Двулісцік раслі вельмі хутка. І з кожным днём твар першай дзяўчынкі рабіўся ўсё больш і больш прыгожым. Пра яе хараство баяліся гаварыць услых, яно проста асляпляла, як асляпляе нас сонечны прамень летняй раніцай. Бацька незвычайна ганарыўся дачкою, ён нават не мог працаваць, калі Прамень Радасці была блізка. Кожную хвіліну з яго губ толькі і злятала:

— Ты — наша сонейка!.. Ты — наша захапленне!.. Ты — наша шчасце!

Нарэшце бацька склікаў Хатні савет і сказаў:

— Яшчэ ніколі ў свеце не было такой прыгожай дзяўчынкі, як наша Прамень Радасці, таму я і загадваю з усіх люстэркаў, якія ёсць у

доме, пакінуць толькі адно: тое, што знаходзіцца ў пакоі, дзе жыве Прамень Радасці. З гэтага дня толькі яна мае права глядзецца ў люстэрка. Усім астатнім я забараняю гэта рабіць!

Так яно і сталася. Праўда, бацькаў загад трошкі парушылі, таму што ў той жа самы дзень у пакоі, дзе жыла Прамень Радасці, замест аднаго павесілі восем люстэркаў!..

«Якая яна шчаслівая!» — думала Двулісцік. Ёй цяпер і сукенкі шыюць самыя лепшыя, і словы гавораць самыя добрыя, а пра люстэркі з цягам часу і забылася. Яна вельмі часта працавала ў полі са сваёй стрыечнай сястрой і аднойчы была надта здзіўлена, калі паднесла гляк з вадою прахожаму чалавеку, які папрасіў піць, і ён замест «дзякуй» сказаў:

— А ты робішся вельмі прыгожанькай дзяўчынкай, Двулісцік!

Гэтыя словы прымусілі яе пачырванець, больш таго, ёй адразу схацелася запытацца ў стрыечнай сястры: «Няўжо я раблюся прыгожай?», але яна пасаромелася, бо ўсе прывыклі гаварыць пра хараство той, якую звалі Прамень Радасці.

Праходзілі тыдні і месяцы... Якой толькі работы не рабіла Двулісцік! І ўсё ў яе атрымлівалася хватка, добра, у ахвоту, а калі аднойчы яна выбегла са свайго двара, каб падхапіць карзіну, якая выпадала з рук незнаёмай бабулькі, тая ўскрыкнула:

— Ай, якое прыгожае дзіця!. Дзяўчынка — сапраўдная прыгажуня!..

Гэтыя словы Двулісцік чула ўсё часцей і часцей. І яна ўсё больш і больш рабілася ветлівай, паслухмянай, сардэчнай і працавітай. Здарылася так, што ў іх двор зайшоў адзін малады чалавек, бацькаў знаёмы. Ён хацеў папрасіць бацьку Двулісцік, таб той дапамог яму ў гаспадарцы. Але бацька ўжо некалькі тыдняў хварэў, маці так і сказала маладому чалавеку:

— Цяжка хварэе наш гаспадар, як ён табе паможа? А сыноў у нас няма, толькі дзве дачкі!..

І не паспеў той адказаць, як на ганак выбегла Двулісцік.

— Мама!.. Мама!..— закрычала яна.— Я пайду замест бацькі!

Малады чалавек не хаваў ад іх свайго захаплення:

— І вам не страшна гэткую прыгажуню выпускаць з хаты?! — сказаў ён, гледзячы на Двулісцік.— Яе ж могуць выкрасці.

Маці нічога не адказала хлопцу, але падумала: «А што б ён сказаў, каб пабачыў нашу Прамень Радасці? Вось дзе сапраўднае хараство!» І пашкадавала, што малады чалавек не можа пабачыць Прамень Радасці, таму што яна некалькі гадоў не выходзіла са свайго пакоя. Прамень Радасці ўсё не магла налюбавацца на сябе і днямі не

адыходзіла ад люстэркаў, вывучаючы, можа, у мільярдны раз кожную сваю рыску.

— Я — самая прыгожая!.. Я — самая прыгожая! — безупынку шаптала яна.

Малады чалавек развітаўся з маці, шчасліва пасміхнуўся Двулісцік, і ёй упершыню схацелася паглядзець на сябе ў люстэрка, каб дазнацца, якая ж яна.

«Мне трэба пайсці ў пакой, дзе жыве Прамень Радасці,— падумала Двулісцік.— Няўжо сястра не дазволіць мне хоць разок зірнуць у люстэрка?!» — і яна пастукалася ў дзверы пакоя, дзе было аж восем самых розных люстэркаў.

— Ты хто?! — запыталася Прамень Радасці, як толькі Двулісцік пераступіла парог.— Хто табе дазволіў зайсці сюды?!

— Я твая сястра — Двулісцік! Няўжо ты мяне не пазнаеш?! Мне хочацца хоць разок паглядзець у люстэрка.

Прамень Радасці спачатку проста здзіўлена глядзела на Двулісцік, а потым пачала кулакамі біць у сцены і крычаць:

— Татка!.. Мамка!.. Сюды!.. Хутчэй бяжыце сюды!

Двулісцік так і не паспела зірнуць у люстэрка. Прыбегла маці.

— Яна хоча паглядзець на сябе ў люстэрка!— закрычала Прамень Радасці, паказваючы на Двулісцік.— Я не хачу бачыць у сваім пакоі такую сястру!

І ўпершыню ў сваім жыцці Двулісцік была пакарана. Яе закрылі ў вялізным склепе і сказалі:

— Будзеш тут сядзець цэлы дзень і цэлую ноч. Ты не паслухалася! Табе схацелася паглядзець у люстэрка!.. І вось — мы цябе караем!

Склеп быў цёмны, халодны і пусты. Двулісцік не баялася цемры, ёй стала толькі трошачкі страшна, калі з поўначы пачала нацягвацца вялікая хмара і яна бачыла ў малюсенькае акенца, як зусім блізка бліснула маланка. Загрымеў гром.

«Якая страшная навальніца!» — падумала Двулісцік.

Яна прыціснулася да халоднай і мокрай сцяны склепа і нечакана для сябе заснула. Прачнулася ад цішыні. Было так ціха, як заўсёды бывае пасля вялікай навальніцы. Двулісцік чула, як б'ецца сэрца, і думала пра тое, што ёй засталося зусім мала сядзець у гэтым пустым змрочным склепе: толькі да раніцы! Але вось яна пачула нечы ўздых, потым шоргат зусім побач з ёю, а потым яшчэ раз — уздых! Ад нечаканасці яна нават выбегла на сярэдзіну склепа.

«Я не адна! — мільганула думка.— Тут яшчэ нехта ёсць!» І Двулісцік запыталася:

— Хто ты?.. Адзавіся!.. Я чую твае ўздыхі!

Спачатку было маўчанне, а потым пачуўся вельмі прыемны голас:

— Я твая Тайна Прыгажосці! І жыву я дзякуючы тваёй працавітасці. Я заўсёды — пры табе: дзе — ты, там і я!

— Мая Тайна Прыгажосці?! — здзіўлена прашаптала Двулісцік.

— Так...— сказаў той жа самы голас.— Але ты заўсёды помні пра тое, што ў кожнай дзяўчынцы жыве свая Тайна Прыгажосці.

* * *

Тут Галенка трошкі збянтэжылася і разам з тым вельмі выразным голасам сказала:

— Прыгажосць — таксама адно з маіх «Я»!

Яна паправіла спаднічку сваёй амаль паветранай сукенкі і цяпер чакала, што скажуць на яе словы цікаўныя хлопчыкі, але яны маўчалі, і маўчанне ўсё больш і больш зацягвалася.

І адкуль было ведаць Галенцы, што на планеце Цікаўных Хлопчыкаў адбывалася нешта зусім нечаканае. Не паспела Галенка сказаць сваё апошняе слова, як нехта заўважыў, што ля самага маленькага тэлескопа няма самага маленькага з цікаўных хлопчыкаў!

— Дзе ён?! — запытаўся самы старэйшы цікаўны хлопчык, і ўся планета ператварылася ў адзіны гул: «Дзе ён?! Дзе ён!? Дзе ён?!»

Нехта нават пабег да ракі, дзе аб шэра-дымны бераг, парослы сіняю-сіняю травою, неспакойна білася аранжавая-аранжавая хваля! Але самага маленькага з цікаўных хлопчыкаў нідзе не было. Ён з'явіўся нечакана і, сапраўды, быў такім маленькім, што з вялікай цяжкасцю цягнуў футарал, дзе ляжала самая звычайная скрыпка.

— Ву-у-ух! — цяжка ўздыхнуў самы маленькі з хлопчыкаў і асцярожна паклаў футарал са скрыпкай ля свайго тэлескопа.

— Навошта?! Навошта ты яе прынёс?! — пачалі дапытвацца цікаўныя хлопчыкі.

— Каб Галенка ведала, што ў мяне ёсць скрыпка!

— Але ж яна не пабачыць яе!.. Гэта толькі мы можам бачыць Галенку ў свае тэлескопы.— І самы старэйшы цікаўны хлопчык сказаў амаль недаравальнае: — Іграць на ёй ты, на жаль, не ўмееш!

Але самы маленькі з цікаўных хлопчыкаў не пакрыўдзіўся! Ён проста паглядзеў у свой тэлескоп, пабачыў сумны твар Галенкі, якой здалося, што пра яе зусім забыліся цікаўныя хлопчыкі, і яна цяпер думала: «Ах, навошта я сказала, што прыгажосць — гэта таксама адно з маіх «Я». Хлопчыкі могуць папракнуць мяне ў нясціпласці».

І вось якраз у гэты момант самы маленькі цікаўны хлопчык запытаўся ў Галенкі:

— А ты ўмееш іграць на скрыпцы?

І яна адказала яму:

— Не!.. На скрыпцы іграць я не ўмею!.. Але затое іграю на піяніна.— А потым спытала: — А навошта табе трэба ведаць пра гэта?

І самы маленькі з цікаўных хлопчыкаў сказаў ёй:

— Твая музыка, напэўна, натхняла б мяне на самыя вялікія подзвігі!

Ён сказаў гэта вельмі сур'ёзна, але Галенка ў адказ засмяялася і весела сказала:

— Усюды ўсе хлопчыкі мараць пра подзвігі. Я ў гэтым пераконвалася неаднойчы.

— Ты ўпэўнена? — спытаў самы маленькі з цікаўных хлопчыкаў.

— Упэўнена! — адказала Галенка.— Гэта відаць нават з самага кароценькага апавядання, якое нядаўна расказаў мне тата, але я падумала, што гэта ён расказаў пра сябе. Нашы таты і мамы таксама ж былі некалі маленькімі і нярэдка любяць успамінаць пра сваё маленства, хоць і саромеюцца, і тады гавораць, што проста ёсць такое апавяданне.

### *І Галенка расказала цікаўным хлопчыкам татава апавяданне, якое называецца «Няўлоўны»*

Неба палымнела. Уздрыгвала зямля ад далёкіх гарматных выбухаў. Час ад часу над лесам узлятала зялёная ракета. Андрэйка імчаў на кані, распараны, разагрэты. Займала дых, не хапала паветра. Страху не было, толькі жаданне:

— Хутчэй!.. Хутчэй да сваіх!..

Раптам наперадзе з'явіліся постаці... «Гэта ворагі!» — мільганула думка. І ў адно імгненне конь напружыўся, заржаў, і ўжо не конь пад Андрэйкам, а птушка з пунсовымі крыламі, якая імчыць яго над зямлёй. Андрэйка чуе, як пяюць травы, нібыта дзівосныя бомы, раса перакатваецца з галінкі на галінку, а ў рукі... Андрэйкавы рукі плыве вясёлка!.. Адхінуўся, зажмурыў вочы, расплюшчыў іх і... прачнуўся!

— У-ух ты! Які конь!.. Як птушка!..— Андрэйка салодка пацягнуўся ў ложку, саскочыў з яго і заскакаў, запляскаў у ладкі.— Эх, галава!.. Я ж быў разведчыкам!.. Я ж вяртаўся з задання!.. З самага сапраўднага... баявога!

— Ну-ну, разведчык,— у пакой увайшла маці,— хутчэй на кухню бяжы, там столькі ласункаў!.. Пачакай, апраніся, дзед Ігнась з вёскі прыехаў!

— Дзед Ігнась? — перапытаў Андрэйка і хуценька пачаў апранацца.

Калі ён зайшоў на кухню, бацька з дзедам Ігнасем пілі чай.

— Ах, мой унучак!.. Вырас!.. Як ты вырас!.. Хутчэй жа ідзі сюды, я абдыму цябе...

Андрэйка засаромеўся. Неяк спадылба зірнуў на дзеда і падышоў бліжэй, паспеўшы, аднак, зірнуць на стол, дзе ляжалі пірагі з макам, цукеркі, пернікі, сыр... Тут Андрэйка зморшчыўся: гэты сыр нагадаў яму трохкутнік, які так старанна Рыгор Іванавіч малюе на дошцы.

А дзед ужо абдымаў яго, ляпаў па плячы:

— Добры хлопец!.. Далібог, добры!.. Ну, а як школа?

— Нічога...—адказаў за Андрэйку бацька.— З арыфметыкай трохі не ладзіць, ды яны ўсе хлопцы такія.

— Адным словам, разведчыкі! — з калідора пачуўся голас маці.— Днём у школу, а ноччу ў разведку ходзяць!

Дзед Ігнась зарагатаў. Засмяяўся і бацька. Андрэйку здалося, што з яго кпяць. Ён ірвануўся наперад, прыкрыў твар рукою і выбег з кухні...

З раніцы імжыла. Але вось выбліснула сонца. Промні заскакалі па дахах, засвяціліся шыбы, здавалася, нават машыны на прамым, як страла, праспекце пачалі рухацца больш жвава, нібыта іх казыталі праменьчыкі.

Андрэйка размахваў партфелем, глядзеў пад ногі, не звяртаючы ніякай увагі ні на машыны, ні на каляровую рэкламу магазінаў. Ён думаў...

— Смяюцца... Падумаеш — даро-ослыя!.. «Адным словам, разведчыкі!..» — успомніў ён словы маці.— А паглядзелі б на сябе!.. Вунь ужо трэці месяц на заводзе дзядзька Коля на першым месцы. А бацька... толькі на другім! А яшчэ абяцае... А дзед?! Што ён?! — Андрэйка гатовы быў заплакаць.— Вунь, у Санькі Пятрова вось гэта дзед!.. Капітан! Санька летам на мора паедзе. А што мой?.. Вартаўнік! Са стрэльбай ля калгаснага саду начамі сядзіць. А хлопцы ўсё роўна грушы трасуць, сам расказваў... Хай з сябе пасмяецца!

Так разважаючы, Андрэйка падыходзіў да школьнай брамы.

«Капитан, капитан, улыбнитесь, ведь улыбка — это флаг корабля...» — пачулася пад самым вухам у Андрэйкі. Так і ёсць! — старэйшы брат Пятрова. А вунь і Санька — следам...

— Чаму не выходзіў у двор? — Санька ўжо крочыў побач.— Я й цябе запісаў у «флацілію». Будзем «змагацца» з першаклашкамі з пятага дома...

— Дзед мой прыехаў,— сумна адказаў Андрэйка.

— Дзе-е-ед?!

Хлопчыкі ўзыходзілі на школьны ганак.

— Адкуль?.. Можа, таксама капітан? — Саньку карцела пачуць штосьці незвычайнае.

— З вёскі... Дзед Ігнась! — Андрэйка хацеў сказаць «вартаўнік ён», ды не сказаў, толькі адмоўна крутнуў галавою: маўляў, не капітан!.. І прапала цікавасць у Пятрова да Андрэйкавага дзеда. Ён імкліва кінуўся да гардэроба... І Андрэйка таксама пачаў распранацца. А цёця Нюра ўжо націскала на званок... Пачыналіся заняткі.

У класным пакоі Рыгор Іванавіч, настаўнік другога «Б», сядзеў за сталом. Стаяла такая цішыня, што, здавалася, можна было пачуць дыханне кожнага вучня. Дзіўны, незвычайны ўрок праводзіў Рыгор Іванавіч, ён так і сказаў:

— Сёння, дарагія мае хлопчыкі і дзяўчынкі, я хачу пагаварыць з вамі пра мужнасць...

Андрэйка на нейкае імгненне прыжмурыў вочы... «Неба палымнела. Уздрыгвала зямля ад далёкіх гарматных выбухаў. Час ад часу над лесам узлятала зялёная ракета. Андрэйка імчаў на кані, распараны, разагрэты. Займала дых, не хапала паветра. Страху не было, толькі жаданне:

— Хутчэй!.. Хутчэй да сваіх!»

— ...У атрадзе партызаны звалі яго Няўлоўны,— пачуў Андрэйка голас настаўніка.— Самыя цяжкія заданні камандаванне атрада даручала яму, і ён заўсёды іх выконваў. І вось аднойчы, калі Няўлоўны быў на чарговым заданні, у вёсцы, якую занялі фашысты, нехта з сувязных сказаў яму, што ворагі схапілі разведчыка, маленькага хлопчыка. Няўлоўны не ведаў яго. Хлопчык быў з іншага атрада. Ды якая розніца! Адчайная думка завалодала Няўлоўным. Ён вырашыў выратаваць хлопчыка. Праз таго ж сувязнога даведаўся, дзе трымаюць маленькага разведчыка...

Рыгор Іванавіч зрабіў паўзу... Позіркам абвёў вучняў. У класе — цішыня. Гараць вочы хлопчыкаў і дзяўчынак. І зноў здалося Андрэйку: «...У адно імгненне конь напружыўся, заржаў, і ўжо не конь пад ім, а птушка з пунсовымі крыламі, якая імчыць яго над зямлёй. Андрэйка чуе, як пяюць травы, нібыта дзівосныя бомы, раса перакатваецца з галінкі на галінку, а ў рукі... Андрэйкавы рукі плыве вясёлка!.. Адхінуўся і...» — зноў пачуў голас Рыгора Іванавіча:

— Няўлоўны дачакаўся цемры. Агародамі падышоў да хаты, дзе знаходзіўся хлопчык. Ударам нажа «зняў» вартавога... Імкліва кінуўся ў дзверы.

Хлопчыка ён знайшоў за перагародкай, якая раздзяляла хату на два пакоі.

— Бяжы! — сказаў на адным дыханні.

— Не, дзядзечка!.. Не!..— заўпарціўся хлопчык.— Я толькі з вамі...

— Бяжы! — крыкнуў Няўлоўны.— Да лесу!.. Я прыкрываць цябе буду!

І хлопчык пабег...

Следам за ім з хаты выбег і Няўлоўны.

Калі фашысты паднялі трывогу, калі засакаталі кулямёты, зашугалі ракеты ў неба, Няўлоўны з хлопчыкам былі каля самага лесу...

Ноччу ісці ў лес фашысты не рызыкнулі.

Рыгор Іванавіч уздыхнуў, чамусьці паглядзеў на гадзіннік. Як зачараваныя вучні глядзелі на свайго настаўніка, нібыта чакаючы ад яго яшчэ нечага, і ён загаварыў ізноў:

— Дык вось, дарагія мае хлопчыкі і дзяўчынкі! Тым хлопчыкам быў я!..— клас уздыхнуў, а Рыгор Іванавіч працягваў: — Што ж тычыцца Няўлоўнага, дык ён павінен быць зараз у школьным калідоры, і неўзабаве вы пабачыце яго, і ён вам яшчэ шмат чаго раскажа.

Настаўнік падышоў да дзвярэй, расчыніў іх, на твары з'явілася радасная ўсмешка:

— Ігнат Мікалаевіч, заходзьце. Мы чакаем....

І калі ў класны пакой увайшоў высокі чалавек у сялянскай вопратцы, з сівымі скронямі і ўсмешлівым позіркам, Андрэйка ўскочыў з парты.

— Дзед Ігнась! — закрычаў ён і кінуўся да яго...

* * *

Увесь час, пакуль Галенка расказвала сваё апавяданне, самы маленькі з цікаўных хлопчыкаў думаў: «І адкуль гэта вядома Галенцы, што ўсе хлопчыкі мараць пра подзвігі?» Гэтая думка з'явілася ў яго таму, што самы маленькі з цікаўных хлопчыкаў, сапраўды, марыў пра подзвіг. Ён жыў на вуліцы Вішнёвых Дажджоў, і калі гэтыя дажджы пачыналіся, усе цікаўныя хлопчыкі, якіх толькі ведаў самы маленькі з іх, падстаўлялі свае кубачкі пад буйныя кроплі і потым з задавальненнем пілі салодкі вішнёвы сок, задаволеныя і сабой; і сваёй планетай. І ён — самы маленькі з цікаўных хлопчыкаў — цяпер марыў пра тое, як яны аднойчы пападуць у бязмежны Космас да яшчэ

невядомых планет і абавязкова наблізяцца да планеты Блакітная Зорка. І, безумоўна, наведаюць яе. І тады самы маленькі з цікаўных хлопчыкаў зможа ў любы момант паказаць сваю смеласць, вернасць і адданасць дзяўчынцы Галенцы, якая жыве на гэтай планеце і вось ужо некалькі гадзін расказвае ўсім цікаўным хлопчыкам надзвычай цікавыя гісторыі...

Галенка тым часам расказала сваё апавяданне, і якраз у гэты момант да самага маленькага з цікаўных хлопчыкаў звярнуўся самы старэйшы:

— А я ведаю, пра што ты думаеш!

— Пра што? — пацікавіўся самы маленькі.

— Табе вельмі хочацца апынуцца на планеце Блакітная Зорка і хочацца паказаць дзяўчынцы Галенцы, які ты смелы, рашучы і высакародны.

— Як ты здагадаўся? — здзівіўся самы маленькі з цікаўных хлопчыкаў, на што самы старэйшы адказаў:

— Я не здагадаўся, я проста ведаю...— і ён не дадаў самага галоўнага, таго, што яму таксама вельмі хацелася апынуцца на планеце Блакітная Зорка, каб дзяўчынка Галенка пры выпадку змагла падзівіцца і яго смеласці.

А дзяўчынка Галенка нечакана сказала:

— Смеласць жыве ў кожным чалавеку, проста ў некаторых людзей яна вельмі і вельмі маленечкая і ніколі не вырастае ў тую смеласць, якая робіць чалавека мудрым і справядлівым.

Такія людзі заўсёды ўсяго баяцца і ніколі не становяцца героямі.

І Галенка пасаромелася прызнацца, што яна бачыць усіх цікаўных хлопчыкаў вельмі смелымі, яна толькі сказала:

— Ведаеце, я люблю людзей мужных, разумных і кемлівых.

І да гэтых сваіх слоў Галенка яшчэ хацела дадаць, што яна бачыць і сябе мужнай і кемлівай, але замест гэтага сказала:

— Вы хочаце паслухаць казку пра смелага кемлівага чалавека? Яе мне таксама расказала мая бабуля. Я кожнае лета езджу да яе ў вёску, і калі б усе тыя казкі, якія яна ведае, скласці разам, дык атрымалася б вялікая-вялікая кніжка,— і, не чакаючы згоды цікаўных хлопчыкаў, Галенка пачала расказваць казку

Пра майстра Дзве Залачоныя Дужкі

Ён спачатку зусім не быў майстрам. Ён быў самым звычайным падлеткам — сынам аднаго старога хворага чалавека — і разам з бацькам хадзіў з двара ў двор, каб наняцца хоць на якую работу, таму што было гэта вельмі і вельмі даўно, яшчэ ў тыя часы, калі на зямлі жылі злосныя каралі і добрыя бедныя людзі...

Той дзень, з якога і пачынаецца гэтая казка, завяршыўся летнім цёплым адвячоркам. Сонца хавалася за непраходны лес, на ўскраі якога бацька гаварыў сыну:

— Чуе маё сэрца, сынок, што паміраю я... Нічога не магу пакінуць табе, акрамя слоў: будзь заўсёды разумным і спагадлівым, хай ніколі не пакідае твой розум кемлівасць, а дабрыня — тваё сэрца.

Сказаў гэтыя словы бацька і памёр. А сын, паплакаўшы ўволю, пахаваў бацьку і заспяшаўся ў напрамку вялікага горада, баючыся, што ноч застане яго каля страшнага лесу. І хіба мог ён ведаць, што ў тым вялікім горадзе, да якога ён спяшаўся, амаль у той самы момант паміраў знакаміты чалавек, якога ўсе людзі звалі майстар Дзве Залачоныя Дужкі, і вельмі паважалі яго, і ганарыліся ім, таму што майстар вырабляў акуляры з дзвюма залачонымі дужкамі. І такіх акуляраў яшчэ не было нідзе на свеце, толькі ў тым каралеўстве. Не менш за астатніх ганарыўся ім і сам кароль. Але гаворка зараз не пра тое. Справа ў тым, што, паміраючы, майстар Дзве Залачоныя Дужкі гаварыў сваім блізкім:

— Чуе маё сэрца, паміраю я... І няма ў мяне ні дачкі, ні сына, але ёсць дом і майстэрні, дзе я вырабляю свае акуляры. Усё гэта я перадаю таму чалавеку, хто першым увойдзе ў наш горад пасля маёй смерці.

Сказаўшы так, знакаміты майстар памёр. А яго самы блізкі слуга пабег на гарадскі вал, каб дачакацца таго чалавека, які першым увойдзе ў горад... І не паспеў слуга дабегчы да гарадской сцяны, як пабачыў засмучанага юнака, які сказаў яму:

— Скажы мне, добры чалавек, дзе я магу заначаваць у гэтым горадзе. Я толькі што пахаваў бацьку, і няма ў мяне ніводнай роднай душы, да якой бы я мог звярнуцца з такой просьбай.

Слуга быў верным слугою свайго знакамітага майстра, таму адразу сказаў:

— Цябе, мой юны сябра, чакае вялікі дом у нашым горадзе і чакаюць твае майстэрні. Ты цяпер будзеш майстрам Дзве Залачоныя Дужкі.

Вельмі здзівіўся малады чалавек, але яму нічога іншага не заставалася, як пайсці следам за слугою ў той дом, гаспадаром якога ён так нечакана стаў. І трэба сказаць, што ён вельмі хутка звыкся з гэтай даволі прыемнай нечаканасцю, таму што праз некалькі дзён яго ўжо можна было бачыць ля самай высокай вежы каралеўскага палаца, і ўсе добрыя людзі гаварылі:

— Вунь стаіць малады майстар Дзве Залачоныя Дужкі. Ён прадае акуляры.

А за высокаю сцяною, якраз насупраць таго месца, дзе прадаваў акуляры майстар Дзве Залачоныя Дужкі, у Ружовай зале кароль збіраў сваіх мудрацоў. Яму схацелася ведаць, якая самая шкодная рэч у яго каралеўстве.

Старшы мудрэц сказаў:

— Я лічу, што самая шкодная рэч у каралеўстве, гэта — люстэрка! Кожную раніцу ў нашага караля псуецца настрой, як толькі ён паглядзіць У яго!

Кароль ускочыў са свайго каралеўскага трона, замахаў рукамі, закрычаў нядобрым голасам:

— Прэч!.. Прэч з маіх пакояў!.. Ты ўсумніўся Ў прыгажосці караля-я-я?!

Тут у Ружовую залу ўбеглі стражнікі, яны падхапілі старшага мудраца пад рукі і выпхнулі яго за дзверы.

Тады асмеліўся загаварыць самы малодшы мудрэц. Ён сказаў:

— Яснавяльможны кароль, я лічу, што ў тваім каралеўстве самая шкодная рэч — акуляры!.. Яны нярэдка дапамагаюць бачыць тое, што не кожнаму дазволена!

Кароль запляскаў у ладкі, і ўсе, хто быў у Ружовай зале, закрычалі не сваімі галасамі:

— Самая шкодная рэч — акуляры!..

І ў той жа міг ва ўсе бакі каралеўства паскакалі ганцы, разносячы гэтую навіну, а варта караля схапіла майстра Дзве Залачоныя Дужкі і прывяла яго ў Ружовую залу, дзе на той момант ј сабраліся ўсе прыдворныя, каб у вялікі сярэбраны кубак караля ліць ялей — надзвычай смачны сіроп, настоены на кветках Паўднёвай ружы, самай прыгожай ружы ў тым каралеўстве.

— Яснавяльможны кароль, мы прывялі да цябе майстра Дзве Залачоныя Дужкі! — наперабой закрычала варта.— Ён асмеліўся прадаваць акуляры — самую шкодную рэч у нашым каралеўстве!..

— Адсячыце яму галаву! — сказаў кароль, падстаўляючы свой сярэбраны кубак пад новыя і новыя кроплі ялею, якія ўсё ліўся і ліўся, а кароль ніяк не знаходзіў у сабе сілы, каб, нарэшце, сказаць: «Хопіць!.. Дастаткова!..»

Варта кінулася да майстра Дзве Залачоныя Дужкі, але ён рукою спыніў стражнікаў.

— Яснавяльможны кароль! — сказаў майстар Дзве Залачоныя Дужкі.— Ты заўсёды паспееш адсячы мне галаву. Але мне хацелася б сказаць, што я прадаю незвычайныя акуляры. Мае акуляры — чароўныя. Больш нідзе няма такіх акуляраў. Ты можаш у гэтым пераканацца...

І майстар Дзве Залачоныя Дужкі абвёў позіркам Ружовую залу. Вельмі хутка ён заўважыў у самым дальнім кутку змрочнага нелюдзімага чалавека, але з ясным і палкім позіркам. І майстар Дзве Залачоныя Дужкі зноў звярнуўся да караля са словамі:

— Бачыш, у тым дальнім кутку стаіць нелюдзімы чалавек са змрочным аблiччам. Нават адзенне на ім невясёлае. Хай ён прымерае мае акуляры і скажа табе, што ён бачыць наўкола...

— Хай прымерае!.. Хай прымерае!..— закрычалі прыдворныя з усіх бакоў.

— Хай прымерае! — сказаў і кароль. І як толькі чалавек прымераў акуляры, якія даў яму майстар Дзве Залачоныя Дужкі, кароль запытаўся ў яго: — А цяпер раскажы мне, што ты бачыш наўкола?

— Што бачу? — сумна пасміхнуўся чалавек.— Мой дарагі кароль, лепш бы мне не бачыць гэтых нікчэмных твараў! — і ён паказаў рукою на прыдворных.— Яны штодня прыходзяць у Ружовую залу ліць ялей у твой сярэбраны кубак і запэўніваюць цябе, што гэты салодкі сіропчык настоены на кветках Паўднёвай ружы, самай прыгожай ружы ў нашым каралеўстве. Мне шкада цябе, мой кароль! Шкада таму, што ты не бачыш, што на самай справе гэты ялей настоены на дробных жоўтых кветачках, якія растуць паўсюдна пад сценамі нашага горада, і яны такія мізэрныя, гэтыя кветачкі, што нават не маюць назвы.

Пасля гэтых слоў чалавека ў невясёлым адзенні ў Ружовай зале стала вельмі ціха. Майстар Дзве Залачоныя Дужкі бачыў, як чырванеюць твары прыдворных, а прыдворныя бачылі, як чырванее твар караля... І тады майстар Дзве Залачоныя Дужкі сказаў:

— Гэта яшчэ не ўсё, яснавяльможны кароль! Каб у цябе не было сумнення ў тым, што мае акуляры чароўныя, дазволь іх прымераць яшчэ аднаму чалавеку...— І майстар Дзве Залачоныя Дужкі зноў абвёў позіркам Ружовую залу і заўважыў у другім дальнім кутку чалавека з шырокім адкрытым тварам, вочы якога свяціліся мудрасцю, і тады сказаў каралю: — Хай прымерае мае акуляры гэты чалавек!

— Хай прымерае! — цяжка сказаў кароль. І як толькі чалавек прымераў акуляры, запытаўся ў яго: — А цяпер скажы мне, што ты бачыш наўкола?

— Што бачу? — чалавек стрымана і неяк загадкава пасміхнуўся.— Бачу, што наш кароль даўно ведаў, што прыдворныя настойваюць свой ялей не на кветках Паўднёвай ружы, самай прыгожай ружы ў нашым каралеўстве, а на тых мізэрных жоўтых кветачках, якія нават не маюць назвы... Так, наш кароль даўно ведаў пра гэта, таму

што наш кароль самы разумны з усіх каралёў, якія толькі жывуць на свеце.

У Ружовай зале пачуліся воплескі, а самы малодшы мудрэц закрычаў:

— Слава каралю-ю!.. Слава каралю-ю!..

І калі ў Ружовай зале зноў стала ціха, чалавек у акулярах сказаў наступныя словы:

— Наш кароль даравў гэты падман сваім прыдворным... Дараваў таму, што ў нашага караля самае добрае, самае ласкавае сэрца, якое толькі можа быць у каралёў.

І зноў у Ружовай зале пачуліся воплескі, а самы малодшы мудрэц нешта зашаптаў каралю, і кароль устаў са свайго трона, і падышоў да майстра Дзве Залачоныя Дужкі, і сказаў яму:

— Дзякуй табе, майстар Дзве Залачоныя Дужкі. Твае акуляры сапраўды чароўныя. Другіх такіх акуляраў няма ў цэлым свеце. З гэтага самага дня я лічу цябе самым кемлівым і самым праўдзівым чалавекам у маім каралеўстве і залічваю цябе ў спіс сваіх мудрацоў.

Ад чаго, трэба сказаць, майстар Дзве Залачоныя Дужкі сціпла адмовіўся. Ён шанаваў памяць знакамітага чалавека і таму да канца сваіх дзён заставаўся майстрам Дзве Залачоныя Дужкі. Яго штодня можна было бачыць ля самай высокай вежы каралеўскага палаца, і ўсе добрыя людзі гаварылі:

— Вунь стаіць майстар Дзве Залачоныя Дужкі. Ён прадае чароўныя акуляры.

А кароль з таго самага дня ніколі не задаваў пытання сваім мудрацам: якая самая шкодная рэч у яго каралеўстве? Больш таго, ён ніколі не браў у рукі свой сярэбраны кубак, калі ў Ружовай зале збіраліся прыдворныя, і яны перасталі ліць у яго свой ялей.

* * *

Галенка чакала, што скажуць цікаўныя хлопчыкі, і ёй уяўлялася, што яны стануць захапляцца майстрам Дзве Залачоныя Дужкі, але пачула зусім іншае, таму што самы старэйшы з цікаўных хлопчыкаў сказаў, ледзь толькі яна закончыла расказваць сваю казку:

— Добра, што кароль больш ніколі не задаваў сваім мудрацам пытання: якая самая шкодная рэч у яго каралеўстве? І вельмі добра, што ён больш ніколі не браў у рукі свой сярэбраны кубак, калі ў Ружовай зале збіраліся прыдворныя.

І з самым старэйшым хлопчыкам пагадзіўся самы маленькі з цікаўных хлопчыкаў. Здавалася, ён нават трошкі падрос ад свайго дужага голасу.

— Я ўпэўнены,— сказаў ён,— што прыдворныя зноў і зноў лілі б у сярэбраны кубак ялей, настоены на тых мізэрных жоўтых кветачках, якія не маюць нават назвы, бо калі хоць раз нехта сказаў няпраўду, яму абавязкова схочацца яе паўтарыць яшчэ раз.

І яго думка мела працяг.

— ПРАЎДЗІВАСЦЬ — сястра СУМЛЕННАСЦІ,— зазначыў самы старэйшы з цікаўных хлопчыкаў.— Гэта яны — тыя галоўныя рысы, якія павінны выхоўваць мы ў сабе змалку.

На што Галенка і самаму маленькаму з цікаўных хлопчыкаў, і самаму старэйшаму сказала:

— Вы проста цудоўныя хлопчыкі!.. Вы вельмі добра разважаеце, але галоўных рысаў, якія павінен выхоўваць кожны чалавек у сабе змалку, вельмі і вельмі многа. Акрамя ПРАЎДЗІВАСЦІ і СУМЛЕННАСЦІ я назвала б яшчэ і ПРАЦАВІТАСЦЬ,— і Галенка не пасмела сказаць цікаўным хлопчыкам, што гэтыя ўсе чалавечыя рысы, якія назваліся тут, таксама яе «Я», а толькі падумала пра гэта і яшчэ пра тое, што, магчыма, ёй трэба сказаць хлопчыкам аб працавітасці значна больш таго, што яна ўжо сказала, таму паспешліва дадала: — Дазвольце!.. Дазвольце мне расказаць вам яшчэ адну казку з тых самых, якія я некалі пачула ад сваёй бабулі, і вы пабачыце на прыкладзе, што значыць быць працавітым.

### *І Галенка пачала расказваць цікаўным хлопчыкам казку Пра дзвюх сясцёр і чараўніка Магу Тое, На Што Здатны*

У лесе густым і цёмным, але вельмі прыгожым, таму што тамраслі самыя дзівосныя расліны, якія толькі могуць расці на свеце, жыў чараўнік, якога звалі Магу Тое, На Што Здатны. Ён мог позіркам перасаджваць дрэвы, мог разганяць хмары і размаўляць з сонцам, з ім раілася ноч, ці не зарана яна апускаецца на зямлю. Але мая казка не пра чараўніка, а пра яго дачок: адну з іх звалі Глея, другую — Бімбок.

Бімбок была незвычайна прыгожая: высокая-высокая, тонкая-тонкая, з доўгімі чорнымі валасамі, якія ажно заблытваліся ў траве, калі Бімбок збірала белыя пахкія краскі на любімай палянцы. Больш яна нічога не ўмела рабіць — толькі збірала краскі; і калі красак збіралася столькі, каб з пялёсткаў можна было пашыць сукенку, Бімбок падзывала Глею, сваю малодшую сястру, якая таксама была прыгожай. Але ўсе захапляліся працавітасцю Глеі, яе ўменнем шыць сукенкі з пялёсткаў, з траў, з тоненькіх дубчыкаў, з пушынак таполяў і дзьмухаўцоў.

Вось і ў той дзень, пра які я хачу расказаць у гэтай казцы, Глея сядзела непадалёку ад сваёй хаты пад шумлівай ялінай і шыла з сухой ігліцы палітончык для Вожыка. Вожык сядзеў побач і расказваў Глеі нейкую вельмі цікавую гісторыю, таму што Глея час ад часу звонка смяялася і гаварыла:

— Вам бы, даражэнькі Вожык, працаваць у цырку! У тым самым цырку, якім захапляюцца дзеці.

І Вожык пагаджаўся з Глеяй:

— О-о, цырк — гэта вельмі здора-а-ава!

Колькі яны яшчэ сядзелі пад шумлівай ялінай, дакладна невядома. Можа, вельмі доўга, а можа, Глея толькі-толькі ўзялася за работу, ды гэтага і не трэба ведаць. Справа ў тым, што зусім блізка з-за высокіх дрэў нечакана пачуўся голас Бімбок, ды такі гучны, такі капрызлівы і раздражнёны, што Глея проста спалохалася, а Вожык адчуў сябе надзіва няёмка, бо каму прыемна быць сведкам чужой нявыхаванасці!

— Глея!.. Ты проста невыносная нягодніца!— крычала Бімбок.— Колькі я магу чакаць цябе! Ці ты не ведаеш, што я сёння іду на баль да гэтых... бляклых дурніц... русалак!.. Я іду на баль!.. На баль!.. На баль!..— і няцяжка здагадацца, што ў гэты момант Бімбок тупала сваёй ножкай ад нецярплівасці.

О гэтая чужая нявыхаванасць! Колькі справядлівых слоў асуджала яе і колькі яшчэ тых самых справядлівых слоў будзе яе асуджаць, але гэтае асуджэнне, тым не менш, не перашкаджала Бімбок тупаць ножкай, а Глеі паспешліва адкідваць убок палітончык, які яна шыла для Вожыка, і бегчы туды, дзе ўсё больш і больш раздражнялася Бімбок.

«Дзіўная рэч гэты самы баль,— думаў Вожык.— Можа, некалі ў далёкіх стагоддзях пра яго нават ніколі і чуць не будуць, а тут столькі нядобрага хвалявання з-за такога кароценькага слоўца «ба-аль!». Вожык быў вельмі сур'ёзнай істотай. Ён сядзеў на пяньку і вельмі сур'ёзна разважаў, што баль будзе абавязкова непатрэбным у будучых стагоддзях, а Глея тым часам вельмі ласкава гаварыла да Бімбок, паказваючы на груд лёгкіх пялёсткаў:

— Гэтыя пялёсткі, сястрыца, нагадваюць аблокі... Яны вельмі прыгожыя, і я магла б з іх пашыць такую ж прыгожую сукенку, лёгкую, як аблокі!.. Але такія ж лёгкія белыя сукенкі будуць і ў русалак, таму што яны шыюць іх з пялёсткаў лілей!

— Калі ты такая разумная, дык, можа, параіш пайсці мне на баль у старой сукенцы?! — закрычала Бімбок.— Я не люблю, калі мне пярэчаць!

— Супакойся, сястрыца... Я пашыю табе сукенку з пялёсткаў лотаці. У начным змроку ты будзеш нагадваць сонечны прамень.

Глеі вельмі хацелася пашыць сукенку з пялёсткаў лотаці. А Бімбок думала, і чым больш яна думала, тым больш ёй падабалася нагадваць сонечны прамень.

— Я згодна,— сказала яна.— Сукенку прынясеш адвячоркам.

Глея глядзела на высокую тоненькую Бімбок, якая хутка аддалялася ад яе, і думала, якая прывабная ў яе сястра, як лёгка і грацыёзна ідзе яна па густой траве, быццам нясе ў сабе самую загадкавую Тайну Прыгажосці. І яшчэ яна думала пра лотаць і пра сукенку, у якой Бімбок будзе нагадваць сонечны прамень... Думкі — думкамі, а справа — справай...

Яшчэ не паспела сонца як след адштурхнуцца ад зеніту і не паспеў Вожык дадумаць свае вельмі сур'ёзныя думкі, якія ўсё больш і больш пераконвалі яго, што баль — рэч цалкам неабавязковая, як радасная, шчаслівая Глея ўжо трымала ў руках сукенку.

Ах, што гэта была за сукенка! Таемная... Зіхоткая... Яна яшчэ дыхала лугам, і Вецер не паспеў з пялёсткаў сагнаць водар глебы. Нават Бімбок, калі ўбачыла сукенку, задаволена заўсміхалася і хацела пацалаваць Глею, але нейкая сіла зацьміла ў ёй гэтае жаданне, і яна сказала стрымана:

— Ідзі... Цябе чакае Вожык.

І зноў Глея сядзела непадалёку ад сваёй хаты, пад шумлівай ялінай і шыла з сухой ігліцы палітончык для Вожыка. А Вожык сядзеў побач і працягваў расказваць вельмі цікавую гісторыю, таму што Глея зноў час ад часу звонка смяялася і гаварыла:

— Вам бы, даражэнькі Вожык, працаваць у цырку! У тым самым цырку, якім захапляюцца дзеці.

І адкуль было ведаць Глеі, што ў гэты момант Бімбок, апрануўшы сваю дзівосную сукенку з пялёсткаў лотаці, раскрывала акно і пачула здзеклівы, сухі, як трэск перасохлага голля, смех старога Крумкача, які сядзеў на галіне магутнага дуба, і звычайна спаў, і ў сваіх снах бачыў войны, войны, войны...

Што прымусіла яго прачнуцца — гэта невядома, але ён прачнуўся, і яго голас страшным громам прагучаў над галавою Бімбок:

— Ты сапраўды думаеш, што гэтую сукенку можна назваць прыгожай?.. Трэба не мець вачэй, каб не бачыць, што яна пашыта са звычайнага балотнага зелля! Ха-ха-ха!..

Бімбок маўчала. Яна не магла зварухнуцца ад нечаканасці. Шчокі яе наліваліся чырванню, і ля самага сэрца нядобра шаптала Злосць:

— Як ты магла даверыцца Глеі!.. Яна пасмяялася над табой!..

Бімбок тупнула ножкай: раз... другі... І пачала ярасна зрываць з сябе сукенку.

— Глея!.. Нягодніца!.. Зараз жа ідзі сюды! — голас Бімбок сарваўся, і яна бездапаможна ўпала ў крэсла.

А стары Крумкач тым часам сеў на падаконне і загаварыў хітрым голасам:

— Зараз сюды прыбяжыць Глея! Ты будзь разумнай, не крычы, не злуйся... Ты проста папрасі ў Глеі, каб яна пашыла табе сукенку з месячнага святла або з рачной хвалі.

Ледзь паспеў стары Крумкач сказаць апошнія словы, як дзверы пакоя расчыніліся і ўсхваляваная Глея кінулася да сястры.

— Бімбок!.. Мілая!..— сказала яна.— Што здарылася?! Табе не спадабалася мая сукенка? Ах, навошта ты парвала яе?! — Глея ледзь не заплакала, гледзячы, як цяпло і бляск пакідаюць скамечаныя пялёсткі.

— Падыдзі бліжэй,— горда прамовіла Бімбок.— Я расчаравалася ў сукенцы з пялёсткаў лотаці. І цяпер хачу сукенку з месячнага святла або рачной хвалі.

— Але гэта немагчыма! — ускрыкнула Глея.— Месячнае святло няўлоўнае, гэтак жа як і рачная хваля. Я не змагу табе пашыць такую сукенку! — сказала яна ціхім голасам, і Глеі было горка ад таго, што мусіла сказаць Бімбок такія словы.

— Ха-ха-ха!..— засмяяўся стары Крумкач і зноў сеў на галіну магутнага дуба.

Шчокі Бімбок пачалі налівацца чырванню. Злосць цяпер крычала ў яе сэрцы:

— Хіба ты не бачыш, Бімбок, што Глея цябе ненавідзіць! Яна ніколі не пашые табе сукенку з месячнага святла або з рачной хвалі.

І Бімбок забылася, што яна — тоненькая-тоненькая Бімбок, што яна павінна насіць у сабе Тайну Прыгажосці. Яна кінулася да Глеі, і... пакой перастаў быць пакоем.

Усялякія войны, нават самыя кароткія, пачынаюцца тады, калі чалавечае сэрца пакідае любоў.

Глея не плакала, хоць удары Бімбок усё сыпаліся і сыпаліся на яе.

А стары Крумкач тым часам падляцеў да акна, за якім Магу Тое, На Што Здатны чытаў чароўную кнігу.

— Як ты можаш чытаць у такую хвіліну?! — хітра-хітра закрычаў стары Крумкач.— Твае дочкі пераступілі закон роднасці!

Магу Тое, На Што Здатны ўздыхнуў на поўныя грудзі і адразу апынуўся ў пакоі Бімбок. Яго імклівая думка ў адно імгненне расказала яму пра ўсё, што адбылося ў пакоі.

Магу Тое, На Што Здатны не любіў доўга гаварыць, таму сказаў вельмі коратка:

— Ты, Бімбок, будзеш кожны год мяняць сваю сукенку, але будзеш заставацца, на жаль, у той жа самай. А ты, Глея, вяртайся пад шумлівую яліну, дзе цябе чакае Вожык! — і Магу Тое, На Што Здатны, зноў уздыхнуўшы на поўныя грудзі, знік, як быццам яго і не было ў пакоі.

А Глея спалохана ўскрыкнула. З высокага крэсла, на якое толькі што прысела Бімбок, спаўзала доўгая тонкая Гадзюка, якая з таго часу кожны год мяняе сваю скуру і застаецца ўсё такой жа... тонкай доўгай Гадзюкай. Але гаворка Цяпер не пра яе.

Калі вы ў нейкай азярыне ці стаўку пабачыце хуткую блішчастую Плотачку, ведайце, што сукенку ёй некалі пашыла Глея з лёгкага пылу, якії страсаюць знічкі, падаючы на зямлю... А пабачыце ў лесе Вавёрку, якая скача з яліны на яліну, ведайце, гэта яна шукае Глею, каб падзякаваць ёй яшчэ раз за цёплае футрачка.

* * *

Галенка была перакanana, што яе казка спадабалася цікаўным хлопчыкам. Яна не магла бачыць іх твараў, але затое чула іх галасы.

— Калі б мы не былі працавітымі, то хіба змаглі б зрабіць свае тэлескопы? — крычаў самы старэйшы хлопчык.

— Правільна! — падтрымліваў яго самы маленькі.— Калі б мы не ўмелі працаваць, дык ці былі б тады нашы тэлескопы самым найвялікшым дасягненнем на планеце Цікаўных Хлопчыкаў!

— Малайчына! — закрычаў яшчэ адзін хлопчык.— Ты, самы маленькі з нас, выказаўся здорава!.. Нашы тэлескопы сапраўды выдатныя, таму што дзякуючы ім мы змаглі пазнаёміцца зі дзяўчынкай Галенкай!

— Цяпер нам трэба зрабіць карабель! — прапанаваў самы старэйшы з хлопчыкаў. Тады мы зможам трапіць на планету Блакітная Зорка.

І самы маленькі з цікаўных хлопчыкаў уздыхнуў.

— Я згодны! — сказаў ён.— Мы трапім на планету Блакітная Зорка і навучым дзяўчынку Галенку майстраваць тэлескопы, каб яна гэтаксама, як і мы, магла бачыць нас і нашу планету.

— Дзяўчынкі не майструюць тэлескопаў,— ціха сказаў яшчэ адзін цікаўны хлопчык.— Але гэта няважна!.. Працавіты чалавек

заўсёды дапамагае другому чалавеку і стараецца зрабіць для некага іншага прыемнае. Ён заўсёды прыйдзе на дапамогу, ён і выручыць, і своечасова дапаможа.

Гэты хлопчык, відаць, якраз і меў на ўвазе тое, што яны, цікаўныя хлопчыкі, могуць дапамагчы Галенцы, калі надарыцца такі выпадак, змайстраваць хоць адзін тэлескоп.

І тут Галенка вырашыла ўмяшацца ў размову. Ёй раптам успомніўся адзін хлопчык, які таксама, як і Валодзька з апавядання «Аперацыя «Дзіцячы гадзіннік», пра якога яна ўжо расказвала цікаўным хлопчыкам, жыве побач з ёю і заўсёды стараецца, калі гэта патрэбна, некаму дапамагчы. І яна сказала цікаўным хлопчыкам:

— Я з вялікай прыемнасцю слухала вас, а Цяпер паслухайце і вы мяне. Я хачу вам расказаць маленькую гісторыю пра свайго суседа. І...

***Галенка расказала цікаўным хлопчыкам гісторыю, якую можна назваць апавяданнем «Прыгоды Косці Каралёва»***

У невялічкім дворыку ля зялёнай альтанкі сабраліся хлопчыкі, якія жывуць у самым прыгожым доме нашага Цэнтральнага раёна. Вырашалася складаная праблема — як лепш наладзіць летні адпачынак.

— Па-першае,— сказаў самы рашучы з іх кірпаносы Гоша з дзесятай кватэры,— нам трэба купіць футбольны мяч. Па-другое, набыць вуды, ну і, на ўсялякі выпадак, бадмінтон. Хто не згодны, прашу ўносіць свае прапановы!

Гоша абвёў хлопчыкаў доўгім позіркам і загаварыў зноў:

— Значыцца, прапаноў няма. Усе згодны... Лёнік, колькі мы маем грошай?

Белабрысы Лёнік з другога пад'езда хуценька палез у кішэню і праз хвіліну адрапартаваў:

— Сем рублёў і сорак капеек!

— Не надта! — сказаў Гоша.— У верасні да збору металалому абавязкова трэба будзе падключыць першаклашак.— Ён падумаў і дадаў: — Значыцца, сем рублёў і сорак капеек? Ну што ж, каго пасылаем у магазін?

Лёнік схапіўся за жывот і сказаў:

— Я не магу... Дрэнна сябе адчуваю.

— А ў мяне сёння «хатні каранцін», маці забараніла выходзіць з двара,— пачаў адгаворвацца «Метэор», так празвалі хлопчыкі Вадзіка з трэцяй кватэры за яго празмерную непаседлівасць.

— У такім выпадку застаюцца Толік і Косця.

— А што?! Я магу...— адразу ж закрычаў Толік.— Толькі без яго... без Косці.

— У чым справа? — запытаўся Гоша па праву самага рашучага.

— Ты яшчэ пытаешся?! З ім жа немагчыма!.. Учора на стадыён разам хадзілі, дык нейкая «морквачка»: «Вой, Валя... Гэта ж Каралёў!.. Той самы, што ў «Прыгодах Стасіка» здымаўся!» І пачалі паказваць пальцамі... На нас увесь стадыён, як на нейкае дзіва, глядзеў!.. Хай паказваюць на яго... Ён «славутасць»! А я?! Я проста Толік Засінец з дома нумар трыццаць пяць!

— Не выступай,— супакоіў яго Гоша.

— З Косцем і я не пайшоў бы,— падтрымаў Толіка Лёнік.— Нядаўна мы з ім ездзілі на будоўлю кааператыва паглядзець на нашу новую кватэру... Дык ён жа ўсю дарогу то сумкі падносіў, то бабуляў пад руку вадзіў... У яго ж на твары напісана: «Можна мне дапамагчы вам?»

Хлопчыкі гаварылі наперабой. Маўчаў адзін Косця. Ён сапраўды здымаўся ў фільме «Прыгоды Стасіка» і сапраўды любіў дапамагаць...

— Ну, хопіць,— строга сказаў Гоша.— Сказана — зроблена! У магазін ідуць Толік і Косця. Лёнік, аддай ім грошы!

— Пайшлі, «кіназорка»,— незадаволена буркнуў Толік, нават не зірнуўшы на Косціка.

...У магазіне было вельмі людна і шумна. Хлопчыкі адразу скіравалі ў аддзел «Спорттавараў» і... разгубіліся: на белым аркушы паперы, прымацаваным да вяроўкі, было напісана «Пераўлік»!

— Што будзем рабіць? — запытаўся Косця.— Пойдзем у іншы магазін?

— Чакай...— Толік азірнуўся, быццам нешта шукаючы.— У мяне ідэя!.. Вунь аддзел цацак..! Там часам прадаюць пісталеты з гумовай прысоскай... Можна купіць некалькі. Гэта даволі танна. Укладзёмся ў рубель...

— Давай,— пагадзіўся Косця.

У аддзеле цацак хлопчыкі адразу ж засяродзілі сваю ўвагу на вялікім гурце людзей.

— Ай, які натоўп!.. Тут, напэўна, нешта здарылася... Давай паглядзім! — з гэтымі словамі Толік пацягнуў Косцю ў цэнтр натоўпу...

— Неверагодна!.. Як можна згубіць такое маленькае дзіця, ды яго ж яшчэ трэба на руках насіць.

— Маці, напэўна, маладая... Загледзелася на вітрыну, а яно і адбеглася!

— Хоць бы па радыё перадалі!.. Недзе ногі збіла, шукаючы,— чулася з усіх бакоў, пакуль хлопчыкі прабіваліся ў цэнтр. Там яны пабачылі дзяўчынку. Яна моцна плакала, выціраючы кулачкамі свае зіхоткія чорныя вочкі.

— Мая ты маленькая, вазьмі цукерачку,— схілілася над ёй нейкая жанчына.— Не бойся, знойдзецца твая мама.

Дзяўчынка адняла кулачок ад твару, зірнула на цукерку, пасля на незнаёмых людзей вакол і раптам... засмяялася.

— Стасік!.. Стасік!..— радасна закрычала яна і кінулася да Косціка.

Натоўп з палёгкай уздыхнуў...

— Нарэшце, знайшоўся!.. Як жа ты мог адпусціць ад сябе сястрычку?!

— Я на месцы тваёй маці дала б сёння табе бярозавай кашы!

— У другі раз за руку прывяжы і ні на крок ад сябе не адпускай!

Галасы былі вельмі ўзбуджаныя, і здавалася, не аціхнуць...

— Зноў уліп,— злосна прашаптаў Толік. Адмаўляйся хутчэй... Кажы, што не тваё дзіця

А Косцік маўчаў. Разгублена пазіраў наўкол, заўважаючы, што натоўп пачынае рассейвацца. Людзі разыходзіліся па сваіх справах.

— Стасік! Стасік!..— дзяўчынка тузала Косціка за руку.— Ты залезеш у клетку з тыграм?

— Угу-у-у, залезе! — адазваўся Толік і звярнуўся да Косці: — Трэба ісці ў дырэкцыю магазіна, здаваць дзіця...

— А што дырэкцыя? Трэба шукаць маці.

— Мне смешна, Каралёў! Як ты яе адшукаеш?!

— Пайду да выхада... Павінна ж яна выйсці з магазіна?

— А-а! — Толік махнуў рукой.— Ты б лепш маску сабе купіў.— І рушыў за Косцікам, які, узяўшы дзяўчынку за руку, шпарка зарочваў да выхада. Там ён хутка і зручна ўладкаваўся на прыступках. Дзяўчынка адразу села да яго на калені і запытала:

— А дзе твой слон?

Косцік паглядзеў на Толіка, не ведаючы, што адказаць. Толік злосна пасміхнуўся:

— Дома слон!.. У ванне стаіць!

— Пад душыкам? — дзяўчынка звонка засмяялася і запляскала ў ладкі.

А час бег... З магазіна выходзілі жанчыны, але ніхто з іх не звяртаў ніякай увагі на дзяўчынку. Хлопчыкі засумавалі...

— Што ж рабіць? — не без хвалявання запытаўся Косцік.

— Нічога! — развёў рукамі Толік.— У міліцыю трэба завесці.

— Не хачу ў міліцыю,— паспрабавала заплакаць дзяўчынка.— Хачу са Стасікам у клетку з тыграм...

— Ну што ты сядзіш, пойдзем! — Толіку карцела хутчэй пазбавіцца ад дзяўчынкі.— Напэўна, маці даўно пазваніла ў міліцыю. Дзяўчынку недзе цяпер шукаюць... А мы сядзім на прыступках і «тралі-валі» разводзім!

— Добра!.. Хадзем!..— Косцік узяў малую за руку, і яны рушылі да перахода праз вуліцу.

— Там... за вуглом, міліцыя,— сказаў Толік, як толькі яны зноў апынуліся на шумным тратуары, і дадаў: — Бліжэйшая...

На гэты раз дзяўчынка ніяк не адрэагавала на яго словы, уся яе ўвага была засяроджана на вялікім фантане ў цэнтры плошчы, якую яны цяпер пераходзілі.

— Стасік!.. Стасік!..— сказала яна.— А ты залезь у фантанным.. Там залатая рыбка!

— Со-о-ом! — адазваўся Толік.

— Навошта ты палохаеш дзіця?!

— Ого-о, які клапатлівы!.. Дык, можа, сапраўды залезеш у фантанчык? Ты плёскаўся ў ім у кінафільме!— Толік засмяяўся.— Ну што ж ты марудзіш? Давай распранайся!

Косцік маўчаў. Дзяўчынка таксама прыціхла, адно Толік не супыняўся:

— Эх, ты-ы!.. Ды ты, аказваецца, баязлівец!.. Толькі ў кіно ў фантанчыках і плёскаешся!

— Ах, так!.. Трымай дзяўчынку!.. — і Косцік не распранаючыся кінуўся да фантана...

— Каралёў! Вярніся!..— Толік спрабаваў яго вярнуць.— Я пажартаваў...

Але было позна. Зіхоткія, праменныя пырскі пацеркамі ападалі на Косціка.

— Хутчэй лаві залатую рыбку! — крычала дзяўчынка.

Міліцэйскі свісток заглушыў яе тоненькі галасок.

— Прозвішча? — праз некалькі хвілін пытаўся ў Косціка міліцыянер.— Імя?..— Потым ён сказаў: — А табе вядома, што купацца ў вадаёмах культурнага прызначэння забаронена?

— Гэта не вадаём, а фантан,— удакладніў Косцік, выціскаючы з майкі ваду.

— Тым больш!.. — твар міліцыянера не абяцаў нічога добрага.

— Таварыш!.. Таварыш міліцыянер! — закрычаў Толік.— Я вам усё растлумачу... Гэта ж Каралёў... Ну той самы, што ў «Прыгодах

Стасіка» здымаўся... Ён і там таксама ў фантане плёскаўся! А гэта... побач з ім — дзяўчынка!... Яна згубілася!..

— Згубілася?— перапытаў міліцыянер, адразу ж голас яго памякчэў.— Як цябе завуць? — лагодна звярнуўся ён да дзяўчынкі.

— Ліна...

— Скварцова?

— Угу-у...— кіўнула дзяўчынка.

— Едзем!.. Бярыце дзіця, і едзем! — хутка сказаў міліцыянер хлопчыкам.— Маці хвалюецца... Кожныя дзесяць хвілін звоніць у міліцыю!..І Гэй, таксі!.. Таксі!..— і, калі спынілася машына, сказаў: — Плошча Свабоды, 47!

І яны паехалі...

— А ты што, сапраўды лазіў у клетку з тыграм? — запытаўся ў Косціка міліцыянер.

— Лазіў!.. Толькі тыгры былі з цырка!

— А-а!.. Гэта нецікава! Цыркавыя тыгры дрэсіраваныя!

— Не скажыце! — адказаў Косцік.

А дзяўчынка закрычала:

— Цікава!.. Цікава!.. Хачу са Стасікам У цырк!

— Будзе табе «цырк» дома! — сказаў міліцыянер.

Машына пад'язджала да плошчы Свабоды.

...Дзверы кватэры адчыніла жанчына. Ледзь толькі ўбачыла дзяўчынку, кінулася да яе:

— Ліначка!.. Мая Ліначка!..

— Дзяўчынка была знойдзена ля фантана! — адрапартаваў міліцыянер.— Яе суправаджалі вось гэтыя маладыя людзі.

— Ай, божа мой! — закрычала жанчына.— Гэта ж хуліганства!.. Замест таго каб заявіць у міліцыю, яны павялі дзіця да фантана!

— Пайшлі! — Толік тузануў Косціка за руку і дагаварыў ужо на лесвіцы: — Што?.. Праглынуў «пілюлю»?

У двары хлопчыкі спыніліся...

— Куды цяпер? — запытаўся Косцік.—Пойдзем у магазін?

Толік паглядзеў на ято доўгім позіркам, хвіліну-другую памаўчаў, пасля сказаў:

— З табою, Каралёў, ні ў якім разе!..

* * *

— Калі б я быў на месцы Косці Каралёва,— сказаў самы старэйшы з цікаўных хлопчыкаў,— мне было б вельмі сумна ад таго, што мой учынак не ацанілі! Маці дзяўчынкі, можна сказаць, неспра-

вядліва пакрыўдзіла яго... Аказваецца, і за Добрую справу не заўсёды можна пачуць словы падзякі!

— Але хіба толькі дзеля гэтых слоў робяцца ўсе добрыя справы? — нечакана запытаўся самы маленькі з цікаўных хлопчыкаў.

— Я гэтага не сказаў...— адказаў самы старэйшы хлопчык.— Ды толькі пагадзіся са мной: добрае слова заўсёды прыемна чуць, тым больш калі яно заслужанае!

— Добрае сло-ова!.. Добрае сло-ова!..— раскрычаўся самы маленькі цікаўны хлопчык.— Асабіста мне ўсё роўна, што скажуць, абы толькі тое, што я зрабіў сапраўды было добраю справай!.. Вы згодны са мной? — звярнуўся ён І да ўсіх астатніх цікаўных хлопчыкаў.

— Згодны!.. Згодны!..— закрычалі цікаўныя хлопчыкі.

— Я таксама згодна з табой,— сказала дзяўчынка Галенка.— Чалавек робіць добрыя справы не за словы падзякі, а таму што ён сам добры чалавек.

— У кожным чалавеку дабрыня самая важная рыса яго характару...— падтрымаў Галенку самы маленькі цікаўны хлопчык.

— Адна з самых важных,— паправіла самага маленькага хлопчыка Галенка, і, відаць, ёй хацелася дадаць, што ДАБРЫНЯ — гэта яшчэ адно яе «Я», але яна толькі махнула рукой і сказала:— ДАБРЫНЯ — цудоўнае «Я» любога чалавека... А што тычыцца маці гэтай дзяўчынкі, дык, відаць, яна была проста незвычайна ўсхвалявана, таму і сказала зусім не тыя словы, якія трэба было сказаць. А зараз, хочаце, я раскажу вам пра чалавека, які ніколі нікому ні ў чым не мог адмовіць, таму што ў яго быў вельмі мяккі і добры характар?!

— Хочам!.. Хочам!.. Калі ласка!..— пачуліся галасы.

Пасля чаго Галенка на хвіліну ўявіла сваю бабулю і, падрабляючыся пад яе голас, пачала расказваць цікаўным хлопчыкам казку

## ***Пра старога мудрага бацьку і добрага сына***

Было гэта вельмі даўно... Так даўно, што мая пра-пра-пра-бабуля тады нават яшчэ і не нарадзілася. І не было на зямлі ні самалётаў, ні машын, ні цягнікоў... Толькі лясы былі ды лясы і дзе-нідзе вёскі, а вялікія гарады ад гэтых вёсак былі вельмі далёка.

Людзі ў вёсках жылі разумна, але бедна. І вось у адной такой вёсцы жыў мудры стары чалавек, і быў у гэтага чалавека сын. Якую б работу ні рабіў бацька, сын заўсёды быў побач і заўсёды гаварыў старому бацьку:

— Татачка, дай памагу!..

І так часта ён гэта гаварыў, што людзі так і празвалі яго «Татачка, Дай Памагу», а тое, перхае, імя, якое далі яму пры нараджэнні, і забылася. Татачка, Дай Памагу нават сам яго ўжо не помніў.

Бедна жылі бацька і сын, хоць і былі вельмі працавітыя і вельмі старанныя, не было шчасця ў іх хаце, і тады Татачка, Дай Памагу вырашыў усюды шукаць яго... І так моцна хацелася яму знайсці сваё шчасце, што часам арэ поле разам з бацькам, а потым нечакана спыніцца і пільна азіраецца наўкола...

— Што ты шукаеш? — запытаецца бацька, а Татачка, Дай Памагу адкажа:

— Гляджу, ці няма якой ямінкі, можа, у ёй маё шчасце ляжыць!

Надакучыла ўсё гэта старому мудраму бацьку, ён і сказаў сыну аднойчы:

— Ты лепш пайшоў бы, сынок, ды і пашукаў па свеце шчасця.

— Добра, пайду!— пагадзіўся Татачка, Дай Памагу.— Колькі ж ты мне даеш часу?

Падумаў бацька дый адказаў:

— Думаю, сынок, што табе і тыдня хопіць... Калі за гэты час не знойдзеш свайго шчасця, то і не трэба ўвогуле шукаць яго, марна час траціць!

З гэтымі словамі і пайшоў сын з бацькоўскае хаты.

Вось ідзе-ідзе Татачка, Дай Памагу, у лес увайшоў, а тут піск нейкі пад нагамі... Зірнуў, а там птушаняты ляжаць, з гнязда выпалі, і недалёка берасцянка кружыць — шкада ёй сваіх дзетачак. Знайшоў Татачка, Дай Памагу гняздо, паклаў у яго птушанят і далей пайшоў. Ішоў ён, ішоў дый успомніў, што торбу сваю ля гнязда таго пакінуў. Вярнуўся Татачка, Дай Памагу... Ляжыць яго торба, а ля торбы дзіцятка сядзіць. Маленькае такое, маленькае. Ажно спужаўся Татачка, Дай Памагу:

— Хто б гэта мог у такім страшным лесе Дзіцятка пакінуць?

Толькі падумаў так, як тут жанчына з-за дрэва выходзіць. Узрадавалася яна, пабачыўшы Татачку, Дай Памагу.

— Добры чалавек,— сказала жанчына,— пабудзь з маім дзіцяткам. Іх у мяне было трое... Ішлі мы, ішлі, я несла гэтага маленькага на руках, дый стамілася... Давайце, кажу, дзеткі, адпачнём трошкі. Села пад гэтае дрэўца, і яны селі побач. Я задрамала... Прачнулася, а тых дваіх, старэйшанькіх, і няма... Толькі вось гэтае ля мяне сядзіць. Пабаўся з ім, добры чалавек, а я пайду пашукаю тых па лесе...

Пагадзіўся Татачка, Дай Памагу, і жанчына пайшла. Гадзіну чакае Татачка, Дай Памагу, дзве чакае, а потым і трэцяя мінулася, а жанчыны ўсё няма і няма. Ужо і ноч насунулася, і дзіця пачало

плакаць: есці схацела... «Што рабіць?.. Што рабіць?» — думае Татачка, Дай Памагу, але выходзіць з-за дрэў жанчына і дзетак сваіх вядзе за рукі.

— Вось і я...— кажа,— і дзеткі мае са мной!

А ўжо цёмна-цёмна ў лесе...

— Мне трэба ісці! — сказаў Татачка, Дай Памагу, а жанчына як заплача:

— А нам куды ісці?! Можа б, ты параіў, добры чалавек, дзе можна пераначаваць з дзеткамі хоць гэтую ноч?

— Ідзіце да майго бацькі,— сказаў Татачка, Дай Памагу, а жанчына зноў у слёзы: маўляў, страшна мне ісці па гэтым цёмным лесе... Прыйшлося Татачку, Дай Памагу вярнуцца дамоў разам з жанчынай і яе дзецьмі... Так вось і прайшоў адзін дзень.

Толькі развіднела, Татачка, Дай Памагу зноў сабраўся ў дарогу. Зноў прыйшоў у той лес... Ідзе ён, ідзе, бачыць: лесарубы лес валяць... Убачылі лесарубы Татачку, Дай Памагу і ўзрадаваліся:

— Добры чалавек, мы ўжо тры дні валім гэты лес без адпачынку... Напрацуй за нас, добрая душа, а мы пойдзем спытаемся, ці доўга нам яшчэ працаваць трэба.

Пагадзіўся Татачка, Дай Памагу, пачаў валіць лес, а лесарубы пайшлі да гаспадара...

Дзень працуе Татачка, Дай Памагу, два працуе... Ужо і трэці пачаўся, а лесарубаў усё няма і няма. Нарэшце прыйшлі лесарубы.

— Дзякуй табе, добры чалавек, за дапамогу! Каб не ты, мы і не даведаліся б, што нам даўно трэба было скончыць работу!

З гэтымі словамі пайшлі лесарубы ў сваю дарогу, а Татачка, Дай Памагу — у сваю... Ішоў ён, ішоў дый сеў пад дрэва, пачаў лічыць, колькі ж у яго дзён засталося на пошукі шчасця. Выйшла, што тры дні. Уздыхнуў Татачка, Дай Памагу, але падумаў: «Нічога!.. І тры дні — таксама час!»

Устаў, узяў сваю торбу і пайшоў у дарогу...

Ідзе ён, ідзе, выйшаў на вялікі лясны прагал. Бачыць, пастух статак пасе. «Гэй, добры дзень табе, чалавеча!» — крыкнуў Татачка, Дай Памагу, і пастух вельмі-вельмі ўзрадаваўся. Толькі падышоў да яго Татачка, Дай Памагу, як пастух і кажа.

— Паглядзі за маім статкам, чалавек харошы, а я пайду скажу жонцы, каб пераняла мяне. Я хутка ўпраўлюся!

Што было рабіць Татачку, Дай Памагу? Пагадзіўся ён паглядзець за статкам, і пайшоў сабе дадому пастух. А Татачка, Дай Памагу пасе статак. Дзень пасе, другі пасе, ужо і трэці пачаўся... Нарэшце

вяртаецца пастух. Убачыў Татачку, Дай Памагу, і трошкі не па сабе яму стала:

— Ты даруй, добры чалавек. Затрымаўся я!

Зноў уздыхнуў Татачка, Дай Памагу, успомніўшы, што толькі адзін дзень у яго застаўся на пошукі шчасця. Але нічога не зробіш, уздыхаў, уздыхаў Татачка, Дай Памагу дый пайшоў у сваю дарогу...

Ідзе ён, ідзе... Ужо і лес скончыўся, поле пачалося... і дарога на два канцы разбягаецца! А пры дарозе — два чалавекі спрачаюцца між сабой, ледзь не б'юцца. Убачылі Татачку, Дай Памагу, падбеглі да яго.

— Мы два браты,— сказалі яны.— Ідзём шчасце сваё шукаць. А тут дарога ў два канцы разбягаецца.. Куды ісці, не ведаем! Мо ты падкажаш нам, дзе мудрага чалавека знайсці, каб параіў?

Думаў Татачка, Дай Памагу, думаў і нарэшце адказаў братам:

— Я не ведаю гэтага краю і людзей тутэйшых не знаю, а вось за тым вялікім лесам жыве адзін мудры чалавек — гэта мой бацька. Калі хочаце, магу вас завесці!

Узрадаваліся браты, падзякавалі Татачку, Дай Памагу і пайшлі за ім... Ішлі яны цэлы дзень і ноч таксама ішлі, а пад раніцу падышлі да хаты, дзе жыў Татачка, Дай Памагу.

Выйшаў на ганак бацька і задаволена засмяяўся.

— Малайчына! — сказаў ён Татачку, Дай Памагу.— Справіўся! А я ўжо думаў, што табе мала сямі дзён, каб знайсці сваё шчасце!

Што было адказваць Татачку, Дай Памагу, але ж трэба адказваць, і ён сказаў бацьку:

— Я прывёў гэтых братоў да цябе, каб ты параіў ім, па якой дарозе трэба пайсці, каб знайсці сваё шчасце. А што да мяне, дык я не знайшоў яго! Прайшлі мае сем дзён, а шчасце недзе ў свеце белым засталося!

На гэтыя словы бацька зноў задаволена засмяяўся:

— Э-э-э, сынок мой, братам гэтым я параю, а табе скажу вось што... Ты знайшоў сваё шчасце даўным-даўно! А можа, і нарадзіўся з ім. Тваё шчасце ў табе жыве. Гэта дабрыня твая, тваё чулае, добрае сэрца. З гэтым шчасцем, сынок, ты нідзе і ніколі не прападзеш!.. Твая дабрыня радасць кожнаму, хто стрэнецца з табой, прыносіць, бо ўмееш сваім шчасцем дзяліцца з іншымі.

Лёгка стала Татачку, Дай Памагу пасля бацькавых слоў, і ён сам сказаў братам:

— Чулі, браты?.. Мой бацька сказаў, што шчасце — гэта дабрыня і чулае сэрца. Вы шукаеце сваё шчасце, дык ідзіце ў тую ж дарогу, што і я! Вунь да таго лесу прастуйце...

З гэтымі словамі Татачка, Дай Памагу вывеў братоў на знаёмую сцяжыну, ды там і развітаўся з імі.

* * *

І як толькі Галенка скончыла гэтую казку, самы маленькі з цікаўных хлопчыкаў закрычаў:

— Я таксама шчаслівы чалавек!.. Вельмі шчаслівы, таму што заўсёды з радасцю дапамагаю іншым!.. Чуеце?! — працягваў крычаць самы маленькі цікаўны хлопчык.— Я самы шчаслівы!.. Самы шчаслівы!..

— А вось гэтага рабіць не трэба,— незвычайна сур'ёзна і нават строга сказала Галенка.

— Чаго не трэба рабіць? — не зразумеў самы маленькі з цікаўных хлопчыкаў.

— Выхваляцца не трэба!.. Чалавек павінен заўсёды прыслухоўвацца да таго, што гавораць пра яго іншыя, а сам заўсёды думаць і гаварыць пра сябе вельмі сціпла.

— А калі ўсё, што гаворыцца, праўда? — амаль пакрыўджана сказаў самы маленькі цікаўны хлопчык.— Калі б ты сказала пра сябе, што ты самая цудоўная дзяўчынка, якая толькі можа быць у прасторах самых розных Галактык, я толькі б узрадаваўся!

— Безумоўна!.. Безумоўна!..— закрычалі ўсе астатнія цікаўныя хлопчыкі.— Галенка — самая цудоўная дзяўчынка!.. Пра гэта нам сказалі яе самыя галоўныя «Я»!

— Але ў мяне ёсць і такія «Я», ад якіх трэба пазбаўляцца!..— удакладніла Галенка.

Цікаўныя хлопчыкі пасаромеліся запытацца пра гэтыя «Я», ведаючы, што кожнаму чалавеку пра свае недахопы не вельмі прыемна гаварыць, але Галенка сказала сама вельмі ціхім голасам:

— На жаль, мне падабаецца, калі мяне хваляць. І хочацца, каб заўсёды толькі хвалілі...

І гэтае жаданне не зусім добрае. Яно садзейнічае ЭГАІЗМУ, якраз таму, што чалавек павінен/ перамагаць у сабе.

«Што такое Эгаізм? Што такое эгаізм? - напружана думаў самы маленькі з цікаўны хлопчыкаў.— Трэба будзе абавязкова распытаць пра яго ў самага старэйшага хлопчыка, які ведае пра ўсё на свеце».

А Галенка тым часам гаварыла:

— Ведаеце, хлопчыкі, я хачу вам расказаць яшчэ адно апавяданне, яно якраз пра тое, што атрымалася, калі Віталіку Лаўранку схацелася, каб яго незаслужана пахвалілі. Гэтае апавяданне я пачула ад Ігара, хлопчыка, які сябруе з Віталікам. Ён напісаў яго ў школе

замест сачынення на вольную тэму, а потым пераказваў усім дзецям з нашага двара.

І Галенка пачала расказваць цікаўным хлопчыкам амаль фантастычнае апавяданне хлопчыка Ігара, якое называецца

### *«Лабус», або Учынак Віталіка Лаўраўнка, які дапамог знішчыць небяспечнае вынаходніцтва*

Віталік Лаўранок вяртаўся са школы. Ён ледзь дацягнуўся да званка, каб пазваніць у дзверы, і нічога не адказаў на пытанне маці, якая адразу на парозе заклапочана ўздыхнула:

— Вой, што здарылася?! Ды на табе сёння твару няма!.. Віталік, сынок, зараз жа пра ўсё раскажы мне!..

Віталік кінуў партфель на падлогу, хуценька сцягнуў з плячэй куртку і, не сказаўшы ні слова, зачыніўся ў сваім пакоі. Віталік Лаўранок думаў...

Заўтра ў клас прыходзіць славуты трэнер, каб залічыць у футбольную каманду толькі аднаго хлопчыка з іх класа. Самага лепшага!.. І, можа быць, упершыню ў жыцці Віталік пашкадаваў, што ён не самы лепшы хлопчык у класе! Што ж прыдумаць?! Што?! Віталік упаў на канапу, але не мог ляжаць. Устаў і пачаў хадзіць з кутка ў куток па пакоі...

«Можна зрабіць што заўгодна,— разважаў ён,— але тыя тры двойкі, якія атрымаў па матэматыцы, гісторыі і па іспанскай мове, з класнага журнала не знікнуць!.. Яны стаяць, як самыя верныя сведкі яго лянoты!.. А тая гісторыя з дзіўным парашком, які ён пасыпаў па ўсім класным пакоі, пасля чаго ўвесь клас без выключэння плакаў! Ён успомніў, як выцірала слёзы і пры гэтым, усхліпваючы, прасіла прабачэння за свой выгляд настаўніца па матэматыцы, і яму зноў стала смешна! Але ён можа смяяцца колькі яму схочацца, а гісторыю тую ўсё роўна многія і многія помняць, больш таго, з яго яшчэ не знята вымова за той выпадак, калі ён, не пайшоўшы на фізкультуру, у гардэробе зашыў рукавы ў паліто Жэні Мулярчыка і толькі на трэці дзень прызнаўся, што гэта зрабіў ён, і толькі дзеля таго, каб пахваліцца сваёй «вынаходлівасцю»: маўляў, гэта ўсё я — Віталік Лаўранок!.. І вось на табе! Заўтра прыходзіць у клас славуты трэнер і, безумоўна, не яго ўключыць у спіс самай моцнай гарадской каманды! Што рабіць?» І раптам Віталік спыніўся на паўкроку...

«Дзіўна!» — падумаў ён. Маці не пайшла ў пакой за ім следам, як заўсёды. Яе, безумоўна, усхваляваў яго выгляд, але яна не назаляе, як гэта бывае звычайна...

А як жа вячэра? Яму ўспомнілася яе ўпартая настойлівасць:

— Віталік, зараз жа ідзі есці!.. Зараз жа ідзі!..

Сёння ўсё па-іншаму. Толькі адно пытанне ля парога, і ўсё! Маці знікла, быццам яе і няма ў кватэры. Але ж яна дома, і, відаць, бацька таксама вярнуўся са свайго інстытута, таму што за сцяною чуюцца галасы...

І Віталік выйшаў з пакоя, падышоў да дзвярэй кабінета, дзе заўсёды ў гэты час пачынаў працаваць бацька, як жартавала маці «ў другую змену». Віталік памкнуўся адкрыць дзверы, але яго спыніў голас бацькі:

— Ты зразумей, Марыя, гэты прыбор свайго роду рэтранслятар!.. Але як з'ява грамадская — ён рэч вельмі шкодная!.. У поўным сэнсе гэтага слова — ашуканец!.. А вось з пункту гледжання навукі, як ні круці, бясспрэчна, адкрыццё, ды яшчэ якое! Усё атрымалася выпадкова. Мы з Бусюком не разлічвалі, што так атрымаецца! Гэта нейкая фантастыка! Мы хацелі атрымаць зусім іншы эфект!.. І вось на табе! Я заўтра ж лячу ў Кіеў да Катрунёнка, мне трэба з ім параіцца як з навуковым кіраўніком!

— А я думала, што гэта нейкі мікрафон,— разгублена сказала маці.

І бацька адразу адказаў ёй:

— Так... у яго форма мікрафона... І мікрафоннае ўстройства ёсць у ім, але гэта не мікрафон!

— А можа, вы з Бусюком памыляецеся? — зноў сказала маці.— Можа, адкрыцця ніякага і няма?.. Навошта гэтая спешка?! Кіеў! Катрунёнак!.. Пачакай, пакуль ён вернецца з канферэнцыі!

— Мы не можам чакаць! — бацька стаяў на сваім.— Ты дарэмна не верыш у адкрыццё! Я табе зараз дакажу.

Віталік затаіў дыханне. Больш за ўсё ён баяўся зараз аднаго, што дзверы нечакана адкрыюцца і маці разам з бацькам скажуць сваё незадаволенае:

— Як не сорамна!.. Стаяць пад дзвярыма і падслухоўваць, пра што гавораць бацькі!

Безумоўна, сорамна! Гэта ведаў і сам Віталік, але ж размова там, за дзвярыма, была такая цікавая.

— Можаш паглядзець на наша адкрыццё больш уважліва,— нейкім глухім, прыцішаным голасам сказаў бацька.— Я нават пабаяўся ў лабараторыі яго пакінуць!.. Узяў з сабою! У яго ўжо і назва ёсць: «Лабус».

— А чаму «Лабус»? — запыталася маці.

— Мы ўзялі дзве пачатковыя літары ад майго прозвішча і да іх дадалі тры першыя літары ад прозвішча Бусюка. Атрымалася «Лабус»!

— Ды не круці ты яго ў руках! — раптам занервавалася маці.— Я хачу хутчэй ведаць, дзе ж тут адкрыццё? Пакуль ніякага адкрыцця я не бачу!

— Пачакай!.. Зараз!.. Дай сабрацца з думкамі!

Віталік здагадаўся, што бацька ў гэты момант сеў у сваё ўтульнае крэсла, апусціў галаву, думаючы, з чаго пачаць... Так ён заўсёды пачынаў гаварыць з ім, Віталікам.

— Значыцца, я сёння прыйшоў дадому раней звычайнага,— пачаў бацька.— Што ты мне сказала адразу, пабачыўшы мяне на парозе?

— Як што сказала? — перапытала маці.

— Ну паўтары!.. Паўтары тыя свае словы!

— Я сказала: «Ай, Мікола, як ты сёння рана! А ў мяне яшчэ не гатова вячэра, таму што я сёння затрымалася на рабоце. У мяне была адказная канферэнцыя... Чым цябе карміць, скажы мне, чым карміць?!»

— Правільна,— сказаў бацька.— А зараз паўтары тое самае вось сюды... Тут якраз мікрафоннае ўстройства!.. Але чакай, хвілінку... Я настрою яго на прозвішча Лаўранок!.. І ты адразу скажаш тое, што толькі што сказала мне...

Віталік ледзь не ўпёрся ў дзверы, ён баяўся прапусціць самае цікавае і нарэшце пачуў трошкі зменены голас маці, але яна гаварыла нешта такое, ад чаго ў Віталіка перахапіла дыханне.

— Ай, Мікола!.. Як добра, што ты сёння прыйшоў дадому раней звычайнага!.. А ў мяне ўжо вячэра гатова!.. І ўсё такое смачнае, такое смачнае!.. Ты пальчыкі абліжаш ад задавальнення!

«Што з ёю?» — спалохана падумаў Віталік і ў той жа момант пачуў матчын крык:

— Нічога не разумею!.. Я ж гаварыла зусім іншае, тое самае, што сказала табе, як толькі ты пераступіў парог!

У пакоі маўчалі. Віталік прыцішыў дыханне, баючыся, што яго пачуюць. Сэрца яго тахкала моцна-моцна!

— Гэта і ёсць наша адкрыццё! — надзіва спакойна сказаў бацька.— «Лабус»... дэзінфармуе. Ён ігнаруе сутнасць і ўсё пераварочвае на свой лад!.. Больш таго... ён толькі хваліць!.. Гаворыць толькі добрае, пра каго б там ні было!.. Хочаш яшчэ прыклад?!

— Хачу! — ледзь выдыхнула маці.

— Ты ведаеш нашага Пятра Якаўлевіча? — неяк нават весела запытаўся бацька.

— Ведаю.

— Дык вось... Пётр Якаўлевіч сістэматычна спазняецца на работу роўна на паўгадзіны!.. Зараз я настрою «Лабус» на прозвішча Пятра Якаўлевіча і скажу, што ён спазняецца роўна на паўгадзіны... Я настройваю і гавару...

Пачуўся ледзь чутны лёгенькі трэск, а потым трошкі зменены бацькаў голас:

— Пётр Якаўлевіч прыходзіць на работу на паўгадзіны раней... Ён — выдатнік вытворчасці!

— Ну, гэта ўжо занадта! — выкрыкнула маці.— Нейкі жах!.. Разбі гэты «Лабус»!

— Разбіць нельга! — сказаў бацька.— Разумееш... Гэта проста навуковае адкрыццё!

Віталік ажно на дыбачкі прыўстаў і не ўтрымаўся, абапёрся рукамі аб дзверы, і яны раскрыліся... Маці падхапіла яго, інакш бы Віталік абавязкова ўпаў.

— Мікола, што з ім робіцца?! Дзіця з ног валіцца!.. Можа, прысядзеш? — звярнулася яна да Віталіка, спрабуючы пасадзіць яго ў крэсла, і было відна, што маці не на жарт спалохалася.

Віталік бачыў, як паспешліва бацька хаваў у стол сваё адкрыццё, названае «Лабусам», як шукаў ключ ад стала ў кішэнях, потым махнуў рукой:

— А-а... Я ж у сябе ў кватэры!..

— Ціха, ціха...— яшчэ больш спалохана прасіла яго маці.— Паглядзі на Віталіка. Ён нейкі, як хворы!..

— Я не хворы! — сказаў Віталік.— Мне проста надакучыла быць аднаму.

— Вось-вось...— хутка пагадзіўся з Віталікам бацька.— Мы з ім папрацуем над прыёмнікам, а ты прыгатуй нам вячэру... Ну, пайшлі!..— цяпер ужо бацька гаварыў да Віталіка: — Працаваць будзем у тваім пакоі. Я сёння адкладу ўсе свае справы, цэлы вечар буду побач з табой...

Яны ўсе выходзілі з кабінета, і адна толькі думка непакоіла Віталіка: «А што, калі бацька возьме сваё адкрыццё з сабою ў Кіеў?» Яна, гэтая думка, не на жарт трывожыла, таму што ў яго ўжо выспеў фантастычны план, амаль такі ж, як і сам «Лабус»: дзёрзкі і незвычайны.

...Раніцай Віталік прачнуўся ад прыглушаных галасоў у прыхожым пакоі. «Дык калі ты вернешся?» — пачуў ён матчын голас і здагадаўся, што маці размаўляла з бацькам.

— Не раней, як заўтра. Мне трэба ўгаварыць Катрунёнка адмовіцца ад выступлення на канферэнцыі і тэрмінова вярнуцца ў Мінск. Без Катрунёнка я не прыеду,— бацька зрабіў націск на апошнія словы.

Маці трошкі памаўчала. Яна не любіла, калі бацька ад'язджаў у камандзіроўкі, і шукала ўсялякую прычыну, каб прымусіць яго вярнуцца як мага хутчэй. Вось і зараз яна сказала:

— А ці не лепш было б гэтае тваё адкрыццё ўзяць з сабой? Катрунёнак табе можа не паверыць, што тады? Як ты будзеш пераконваць яго ў тым, што яму тэрмінова неабходна вярнуцца ў Мінск?

— Не гавары глупства!.. Што значыць — узяць з сабою?! Я магу згубіць яго!.. Зрэшты, можа быць катастрофа... Самалёт узарвецца ў паветры? Ды і як гэта Катрунёнак не паверыць?!

— Людцы добрыя!.. Катастрофа!.. Ён, гэты «Лабус», даражэй табе за ўласнае жыццё!.. Пра што ты гаворыш, Мікола?!

— Добра, не палохайся! Катастрофы не будзе! Ты тут глядзі, на Віталіка не надта цісні!.. Ён цяпер у такім узросце, калі лёгка адштурхнуць ад сябе.

Віталік любіў бацьку і паважаў яго надзвычай. Вось і цяпер ён думаў: «Малайчына бацька!» І разам з тым аж горача рабілася ад нецярплівасці: «Хутчэй бы ён пайшоў!.. Хутчэй бы развітаўся з маці!» Тады ён імгненна ўстане, папросіць, каб маці згатавала сняданак, а сам ускочыць у бацькаў пакой, і... «Лабус» будзе цэлы дзень яго ўласнасцю!.. Тады пабачым, каго запіша славуты трэнер у каманду!..

Нарэшце бацька сказаў:

— Ну, пакуль!.. Пазваню з Кіева!..— І дзверы за ім зачыніліся. Маці хуценька пайшла на кухню, каб у адкрытую фортку памахаць яму рукой... Віталік ведаў, што яна заўсёды рабіла так, і зараз думаў: «Дзіўна, і як гэта не бянтэжыць бацьку!.. Я сам, здаецца, згарэў бы ад сораму!» — і хуценька адагнаў гэтыя неабавязковыя думкі, закрычаў, ускокваючы з ложка:

— Мама!.. Як я хачу есці!.. Каб ты толькі ведала, які я галодны!.. Мне мала звычайнага бутэрброда!.. Я хачу гарачую яечню!.. Мама!..

Маці зазірнула ў пакой.

— Што ты раскрычаўся?! Хуценька мыцца!..— загадала яна.— Я зраблю табе яечню, толькі ты не спазніся ў школу!

І маці пачала завіхацца на кухні...

Віталік схапіў свой партфель і ў адно імгненне апынуўся ў бацькавым кабінеце. «Толькі б стол быў адкрыты!» — як малаточкам, стукала ў скронь думка...

Яму ў тую раніцу шанцавала: бацька не закрываў стала і «Лабус», які крапля ў кроплю нагадваў самы сапраўдны мікрафон, хутка апынуўся ў партфелі, Віталік толькі паспеў заўва жыць прозвішча «Лаўранок» пад маленечкай кнопкай. «Гэта, відаць, і ёсць настройка на пэў нае прозвішча»,— падумаў ён. А маці ўжо гукала яго на кухню:

— Яечня гатова, чуеш?! Ты памыўся?!

Прыемна, калі ў чалавека з раніцы добры

настрой,— гэта заўважыў Віталік яшчэ на першым уроку, калі ён вельмі ўдала рашыў задачку па матэматыцы і «параграф» адказаў як трэба. Ён нават дзённіка не закрываў, паклаў на парту, і здалёку была бачна пяцёрка на ўсю клетку. «За яе маці на ўсе сто працэнтаў новыя красоўкі купіць!» — радаваўся Віталік і няспынна чакаў, калі ж скончацца ўрокі і яны пойдуць у актавую залу, дзе і будзе сустрэча са славутым трэнерам.

Апошні ўрок цягнуўся даўжэй звычайнага, і ўсё-такі ён скончыўся. У клас увайшла Галіна Максімаўна і сказала, што ў актавую залу яны пойдуць разам з 4 «А» класам і што з таго класа таксама некага залічаць у каманду славутага трэнера. «Толькі б спрацаваў «Лабус»,— думаў увесь час Віталік, а па дарозе ў актавую залу падышоў да Галіны Максімаўны і сказаў ёй трошкі збянтэжана:

— Наша актавая зала такая вялікая!.. Каб не надрываць галасоў, я ўзяў свой мікрафон...

Самы сапраўдны!.. Ён у мяне во-о з такіх гадоў! — Віталік ажно прысеў: маўляў, во з такога ўзросту.— Ён выдатна працуе! — і дадаў: — Здаецца, у актавай зале ёсць прыстасаванне да яго.

Галіна Максімаўна пасміхнулася... Ёй быў прыемны гэты Віталікаў клопат.

— Дзякуй, Лаўранок!.. Ёсць!.. Ёсць прыстасаванне! — сказала яна.— Твой мікрафон будзе дарэчы...

І ўсё пайшло, як па плану... Трэнер усім спадабаўся. Гэта быў высокі мужчына з прыемным голасам. Ён цікава расказваў пра футбол, яму доўга апладзіравалі... І класны кіраўнік 4 «А» класа таксама гаварыла добра. Яна пералічыла ўсіх хлопчыкаў і пра кожнага сказала некалькі слоў, але лепш за ўсё гаварыла пра Вітушкіна. Трэнер адразу запісаў яго ў каманду. «Лабус» працаваў выключна: ні шуму, ні трэску... Вось нарэшце слова ўзяла Галіна Максімаўна, і яе ціхі спакойны голас, як ніколі, загучаў упэўнена, моцна. «Лабуе» яна трымала ў руках лёгка і проста, быццам толькі і рабіла, што карысталася ім... Але вось яна назвала прозвішчы Іванёнка, потым Зубіча, потым Кандрусевіча і гаварыла пра іх як ёсць, адзначаючы і добрае, і кепскае... Пра Кандрусевіча, напрыклад, сказала, што «ўвогуле,

хлопец здольны, ды, на жаль, няма ў характары ўпартасці, адсюль і тройкі...». Віталік баяўся ўздыхнуць, на чарзе было яго прозвішча, і як толькі Галіна Максімаўна вымавіла «Лаўранок», у «Лабусе» адразу нешта трэснула, ледзь чутна, але ён, Віталік, гэты трэск пачуў, і тут жа пачалося нешта неймавернае, што заставіла Віталіка апусціць галаву...

— Гэта наш самы лепшы вучань,— гаварыла Галіна Максімаўна.— Ён заслугоўвае гаворкі асобнай... У ім, як у люстэрку, адбіваюцца самыя выдатныя рысы нашых школьнікаў!.. З яго трэба браць прыклад!.. Ім трэба ганарыцца!.. Ён, безумоўна, адзіны, хто можа быць залічаны ў самую лепшую каманду горада!.. Я ўпэўнена, што ўсе мячы, забітыя ў вароты праціўніка, будуць толькі яго! Інакш быць не можа!.. Лаўранок надзелены нечалавечымі здольнасцямі, ён — унікум!.. Ды на яго, увогуле, трэба маліцца!..

Галіна Максімаўна раптам схапілася за галаву, і гэты яе жэст стаў сігналам: актавая зала ўзарвалася гулам... З усіх бакоў чулася:

— Галіна Максімаўна!.. Галіна Максімаўна!.. Што з вамі?! Што здарылася?! Што такое?!

Віталік баяўся падняць галаву. Гэты гул прымусіў яго пачырванець.

— Я не ведаю, што са мной?! — разгублена прашаптала Галіна Максімаўна і гучна загаварыла зноў, трымаючы «Лабус» ледзь не ля самых вуснаў.— Я знаю, чаго вы раскрычаліся,— сказала яна,— вам не спадабаліся мае словы!.. А я не баюся паўтарыць, што Лаўранок ва ўсіх адносінах — Дзіця з вялікай літары!.. Вам стала зайздросна, але вы ніколі не зможаце дасягнуць такіх поспехаў усе разам, якіх дасягнуў ён адзін!.. Лаўранок — шчаслівае выключэнне!.. Я рэкамендую Лаўранка! І вельмі настойліва! — праз момант дадала яна.

Гул галасоў заглушыў яе апошнія словы. Галіна Максімаўна зноў схапілася за галаву і зноў паднесла «Лабус» да вуснаў, яна старалася гаварыць спакойна:

— Гэтага мне і трэба было чакаць ад вас!.. Вы ўсе — злосныя, нядобрыя хлопчыкі і дзяўчынкі!.. Вы проста — невыносныя! А ён... ён — геній!.. Але вам гэтага не зразумець! — І Галіна Максімаўна раптам заплакала... Яна бездапаможна прысела да стала, і плечы яе схіліліся нізка-нізка...

І ўмомант стала ціха ў актавай зале. І чамусьці ўсе глядзелі не на Галіну Максімаўну, а на яго, Віталіка Лаўранка. І Віталік ускочыў з месца... Ён амаль вырваў з рук Галіны Максімаўны «Лабус» і пабег...

Яшчэ ніколі ў жыцці яму не было так сорамна. Ён выбег у школьны двор і па сцяжынцы пабег ўздаль агароджы, за якою быў аўтобусны прыпынак, і ўжо недалёка ад яго паслізнуўся на тратуары... Падаючы,

ён не пачуў болю, але добра бачыў, І як «Лабус» з бразгатам разлятаўся... на часткі.

Праз некалькі дзён на тым жа самым прыпынку Віталік Лаўранок стаяў з бацькам. Бацьку не выклікалі ў школу, ён прыйшоў сам, каб растлумачыць, што ж адбылося, і цяпер Віталік успамінаў апошнія словы, якія бацька сказаў там, у кабінеце дырэктара:

— Маё адкрыццё не мела права на існаванне, таму што ўсялякую пахвалу трэба заслужыць. Спярша — добрая справа, а потым ужо і добрыя словы пра яе. «Лабус», на жаль, гэтага не разумеў!..

* * *

Галенка сказала апошнія словы і раптам злавіла сябе на думцы, што ёй вельмі хочацца, каб цікаўныя хлопчыкі пахвалілі яе за тое, што яна з такой радасцю расказала ім і гэтае амаль фантастычнае апавяданне, і ад гэтае думкі ёй зрабілася трошачкі ніякавата (хоць пахвала ў дадзеным выпадку была б і заслужанай)...

«Зрэшты, хай і не хваляць,— падумала Галенка,— хай проста выкажуцца пра апавяданне: спадабалася яно ім ці не?» — так думала Галенка, чакаючы, што ж скажуць цікаўныя хлопчыкі, але яны маўчалі, і гэтае маўчанне зацягвалася...

«Дзіва-дзіўнае,— зноў падумала Галенка,— хоць бы адно слова! Што ж можа значыць такая іх абыякавасць да пачутага?»

І адкуль было ведаць Галенцы, што ў гэты момант усе цікаўныя хлопчыкі, затаіўшы сваё дыханне, сачылі за палосачкай вішнёвага колеру, якая з'явілася на даляглядзе... Гэтая палосачка расла, шырылася, і нарэшце ўсім цікаўным хлопчыкам стала зразумела, што гэта наплывае вішнёвая хмарка...

— Ура-а-а!.. Ура-а-а-а! — нечакана пачула Галенка, і была яна здзіўлена незвычайна, таму што не магла бачыць таго, што вішнёвая хмарка заслала амаль усё неба на планеце Цікаўных Хлопчыкаў. І на вуліцы Вішнёвых Дажджоў сыпануў вясёлы вішнёвы дождж... Цікаўныя хлопчыкі імгненна разбегліся па сваіх хатах, каб схапіць свае кубачкі і хутчэй пабегчы на самую слаўную вуліцу, дзе ўсё падае і падае гэты буйны і надзвычай салодкі дождж...

Ля тэлескопаў застаўся толькі самы маленькі з цікаўных хлопчыкаў. Ён сумна глядзеў на вішнёвую хмарку і бачыў, што хмарка зачапілася за самае высокае дрэва і што вішнёвы дождж на вуліцы Вішнёвых Дажджоў будзе ісці цяпер, відаць, вельмі і вельмі доўга...

Хлопчык паглядзеў у свой тэлескоп і заўважыў разгубленасць на твары ў Галенкі, і яму стала вельмі шкада яе.

«Я павінен сказаць ёй нешта вельмі ласкавае, вельмі цёплае і сардэчнае!» — думаў самы маленькі з цікаўных хлопчыкаў і азіраўся па баках: ён жа быў самы-самы маленькі і яму яшчэ патрэбна была падтрымка астатніх хлопчыкаў — хоць позіркам, хоць рухам. Гаварыць адзін на адзін з Галенкай ён чамусьці баяўся. І пакуль самы маленькі з цікаўных хлопчыкаў думаў пра ўсё гэта, пазіраючы час ад часу ў свой тэлескоп, на планеце Блакітная Зорка пачуўся зусім не знаёмы, але вельмі прыемны і звонкі голас:

— Галенка!.. Я сёння вярнулася з піянерскага лагера!.. Ты толькі паглядзі, што ў мяне ёсць! Вавёрка!.. Самая сапраўдная!..

— Вавёрка? — здзіўлена адгукнулася Галенка на голас.— Дзе ты яе ўзяла?!

— Падарылі хлопчыкі з нашага лагера!.. Бяжы сюды, да мяне, што ж ты там стаіш?! Хутчэй бяжы!.. Вавёрка — ручная!..

І дзяўчынка Галенка пабегла... Гэта вельмі добра бачыў самы маленькі з цікаўных хлопчыкаў у свой тэлескоп. І яму стала зусім сумна... А на вуліцы Вішнёвых Дажджоў усё ішоў і ішоў буйны і вясёлы вішнёвы дождж... Цікаўныя хлопчыкі размахвалі сваімі кубачкамі, і кожны з іх ганарыўся, што толькі на іх планеце ёсць такая неверагодная вуліца, над якой спыняецца вішнёвая хмарка. А самы маленькі з цікаўных хлопчыкаў сядзеў ля свайго тэлескопа і марыў пра той карабель, які яны абавязкова змайструюць. І нарэшце прыйдзе такі дзень, калі яны ўсе разам змогуць апынуцца на планеце Блакітная Зорка і змогуць сказаць дзяўчынцы Галенцы: — А вось і мы!.. Добры дзень!.. Ты нас не чакала, а мы прыляцелі на тваю планету, каб сказаць табе наша цёплае дзякуй за твае цікавыя казкі і апавяданні, якія вельмі спадабаліся нам, цікаўным хлопчыкам, што жывуць на планеце, якая нечым нагадвае аранжава-белы футбольны мяч!

## ЗМЕСТ



Баравікова Р. А.

Галенчыны «Я», альбо Планета Цікаўных Хлопчыкаў: Аповесць: Для дашк. і малод. шк. узросту/Маст. Л. Зярніцкі.— Мн.: Юнацтва, 1990.— 134 с.: каляр. іл.

ISBN 5-7880-0178-1.
У фантастычнай аповесці расказваецца аб тым, як у неабсяжным і загадкавым Космасе жыхары планеты Цікаўных Хлопчыкаў нечакана адкрываюць новую планету Блакітная Зорка, на якой жыве дзяўчынка Галенка. Яна расказвае хлопчыкам гісторыі і казкі пра самыя цудоўныя чалавечыя якасці.